

Рознагалоссе → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Звычайныя радасці → 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3191) Год LXII | Беласток, 9 ліпеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# «Усё маё адтуль родам: і мова, і песні, і сум, і радасць»

Раніца дваццаць восьмага чэрвеня не прадвяшчала для мяне прыходу пасланца дрэнных навін. Але так папраўдзе звальваюцца яны на нас у найбольш нечаканых момантах. У апошнім часе было ў мяне іх аж надта так у асабістым, як і ў прафесійным плане. Гэтага ж дня здзяйсняўся яшчэ для мяне чарговы год майго зямнога вандравання. Як заўсёды ў такія хвіліны нашаму кругазвароту спадарожнічаюць розныя рэфлексіі наконт людзей і падзей, з якімі прыходзіцца нам сустракацца. І ўжо перад дзясятай раніцы як гром з яснага неба ў сядзібу «Нівы» прыляцела вестка, што на восемдзесят першым годзе жыцця перад аблічча Усявышняга быў пакліканы праваслаўны архіепіскап Лодзінскі і Познаньскі доктар Сіман Раманчук.



фота Адама Паўлоўскага



Нашы думкі і размовы паляцелі ў бок Уладыкі. Нашага Уладыкі — як сярод беларусаў у Польшчы пра Яго гаварылі многія. Стараюся ўзгадаць сваю першую з Ім сустрэчу. І раптам перад вачыма ўзнікае карціна, калі на пачатку васьмідзясятых гадоў, калі я быў вучнем Гайнаўскага белліцэя, здаецца на Міколу, прыехаў Ён у Гайнаўку да пробашча Антонія Дзевятоўскага, які тады на хвалу Гасподнюю ўзводзіў пабудову свайго жыцця — сённяшні Свята-Троіцкі сабор. Памятаю хрэсны ход, калі ішлі яны побач сябе. Цёплае, веснавое паветра, задуменне, радасць і ласка. Так, калі добра прыглянуцца, то паміж імі было нейкае і фізічнае падабенства. Стройныя, высокія, з бародкамі, з дабрынёй на твары і таемнай усмешкай, што падкрэслівала глыбіню радасці веры. А затым прапаведзь па-беларуску. Для нас, прагных свайго ліцэйскіх маладзёнаў, было гэта атрыманнем такога падарунку, які можна толькі вымарыць. Заўсёды, бываючы на Беласточчыне, родная мова плыла з Ягоных вуснаў і сэрца. Ніхто з іншых епіскапаў так не карыстаўся мовай і не хваліў Госпада па-беларуску як Ён. Памятаю таксама нашы наіўныя спадзяванні, што шляхі маглі б яго прывесці на Падляшша, дзе ўзначаліў бы Беластоцка-Гданьскую епархію. Не дазволілі на гэта палітычныя абставіны, ну і, зразумела, людзі. Помню колькі дыскусій было ў нашым асяроддзі пра тое, як важнай для гарманічнага развіцця беларускасці ў Царкве магла б быць Ягоная тут прысутнасць. Ну што ж, не нам рассуджваць волю Божую і крывадушнасць роду чалавечага.

Таму Уладыка, як птушка, стараўся як найчасцей прылятаць у свой родны край. Часам патаемна. Хаваўся ў гушчэвіну дрэў і траў, праз якія прадзіраўся так, як праз гушчэвіну сваіх думак. Бо ён сапраўды быў наш ад сэрца і душы, ад радасці і болю перапоўнены беларускасцю, якая спалучала народныя сокі з роднай Гушчэвіны з высокай, гуманітарнай адукацыяй, атрыманай на беларускай мове напрыканцы пяцідзясятых гадоў у Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. Пасля вяртання з Мінска настаўнічаў Ён у ліцэі ў Міхалове, абітурыенты якога па сённяшні дзень згадваюць Яго як выдатнага спецыяліста па беларускай, рускай і лацінскай мовах. А потым прыйдзе яшчэ захапленне і французскай, якую пад дахамі Парыжа ўбіраў у сябе дзеля мастацтва і эстэтыкі. Але ж гэтая набытая інтэлектуальнасць дазваляла Уладыку гаварыць як роўны з роўным з каталіцкім духавенствам і польскімі інтэлектуаламі Кракава, Познані, Торуні, Чанстаховы, бо менавіта такія гарады знаходзяцца ў межах праваслаўнай Лодзінска-Познаньскай епархіі. Быць епіскапам у такой рэчаіснасці патрабавала дыпламатыі, экуменізму, настойлівасці ў вырашэнні складаных спраў з царкоўнай маёмасцю. І памаленьку з Божай дапамогай усё здзяйснялася. А сам Уладыка — быў я гэтага сведкам — займаўся і рамонтам і наладкай тэхнічных прылад, а пры тым з лагоднасцю патрапіў з усяго жартаваць.

Прыпушчанскае дзяцінства ў Гушчэвіне з цудоўнымі бацькамі Марыяй і Аляксандрам (Сашкам яго звалі суседзі), сястрой Нінай, царкоўнымі званамі і харамі далі ўражліваму хлопцу і маладзёну прагу да чытання навукі, спалучану з марамі пра самарэалізацыю. «Усё маё адтуль родам: і мова, і песні, і сум, і радасць», — сказаў ён у інтэрв'ю нашаму тыднёвіку ў красавіку 2004 года перад Вялікаднем. Ягоная самарэалізацыя спалучалася з духоўна-сакральным мысленнем і пісаннем высокамастацкіх твораў на беларускай мове. Праўда з перапынкамі. Але не было аніякага перапынку ва Уладыкі ў чытанні кожнага нумара «Нівы». «Ніву» перасылаў Ён таксама ў Мінск, між іншым, свайму сябру з інтэрнацкага пакойчыка Нілу Гілевічу. Дасылаў лісты ў рэдакцыю з надзеяй на сустрэчы і размовы, каб паспець выгаварыцца пра роднае і балючае са сваімі. Друкуем адзін з такіх лістоў, пісаных на машынцы лацінкай. Усе іншыя, пісаныя ўласнаручна кірыліцай, з'яўляюцца вялікім багаццем рэдакцыйнага архіва нашага тыднёвіка. Як скарб захоўваем Ягонын віншаванні для ўсёй рэдакцыі і чытачоў перад Вялікаднем, Раждзством і круглымі ўгодкамі нашага тыднёвіка. За ўсё гэтае наша бязмежная памяць і падзяка ад рэдакцыі і чытачоў. Ну і па-чалавечы аграмаднае шкадаванне, што не будзе ў гэтым зямным жыцці працягу і завяршэння маёй шматгадзіннай з Ім размовы, якая для мяне застанецца ў памяці на ўсё жыццё.



PRAWOSŁAWNY ARCYBISKUP
ŁÓDZKI I POZNAŃSKI
90-135 Łódź, Ul. Narutowicza 46 tel./fax 42 633 41 69

Nr M6-1-2016

04.08.2016
Łódź, dn.

WIELMI SZANOUNAMU HAŁOUNAMU REDAKTARU " N I W Y "
SPADARU JAUHIENU W A P I E
I USIM SPADARYNIAM I SPADARAM Z WULICY ZAMENHOFA 27
U B I E Ł A S T O K U .

::::::::::::::

Czaławiek pradpałahaje=Haspodź Boh,r a z p a ł a h a j e ....

Tak i u mianie ...

Dumau z b u d u jechać na Adzihitryju Supraskuju 9 źniunia, i,hetak, " z nalotu-pawarotu, n a l a c z u " NA ZAMENHOFA 27,i,chacia, moża,n a l a k a j u - ad nieczakanaści,zahlanu,nahladźusia NA USICH WAS,nahawarusia Z WAMI !...,a,tady,użo-szto budzie-słujcie nie słujcie !...

I NIK WYCHODZIĆ!,nieszta pryczapiłasia da majoj prawaj nahi,i stupić trudna,i nie wychodzić stajać !, kudy użo mnie tam usim Archijerejam kulhawamu kalentaca !... Wychodzić i na Swiatuju Hrabarku, chacia Błażenniejszy Iaan,Patriarch Ancijachijski z Sirii prylataje da nas / z daktaratam honoris causa u Akademii Teałahicznaj u Warszawie / - n i e wyjdzie...
Szto budzie to i budzie,biez mianie tam,kudy tam staręczy-mnie-na usiakaje miesca piarcisia !,chacia-c h a c i e ł a s i a !.....

Nu-to ,hetak, w i t a j u WAS USICH, z letam ! ,
sa ziaroujam dobrym ! Piłnujciasia z im,ja-bywała NIEwielmi-woś i " szandybaju "-jak kazau moj Tatka... Kali my m a ł a d y j a -CHTO d u m a j e -szto budzie,dzie-kali,chwory ?!?...
Mazausiody ja zapomniu słowy dawniaha majho znajomaha prafiesara z Warszawy,z wajskowych,maisiejawaha wierawyznannia-można : bolsz pachodźannia : " kali ty nie choczasz pasłuchać staroha czaławieka,kali jon ciabie nawucząje-ty pasłuchaj staroha Żyda !.....

Pakłon WAM USIM,i USIO WAM NAJLEPSZAJE CHAJ B U D Z I E,
SARDECZNAJE ! Budźcie ZDAROWY,ŻYWICIE B A H A T Y !....

Z DABROM DA USICH W A S - + S i m a n ,
+Siman
Archijepiskap Prawasłauny u Łodzi
i Usioj Centralnaj Polszczy

Няхай Лодзінская зямля будзе Вам пухам, а родная Гушчэвіна і Беласточчына жывуць на векі вечныя ў Вашай душы. Вечная Вам памяць, Уладыка!

Яўген ВАПА





# Маё пакаленне

Гэта было на прыпынку ў Гародні. Размаўлялі між сабой мужчыны сярэдняга веку. Малодшы выглядаў на гадоў крыху больш за сорак, старэйшы ўжо добра за пяцьдзясят. Маё пакаленне.

— Усё часцей задумваюся, куды пайшло жыццё, — уздыхнуў старэйшы. — Увесь час гарбаціўся, круціўся... А час так хутка праляцеў і што ў выніку?! Заробку няма, перспектыў аніякіх. Нават дзеці з гэтай краіны ад такога жыцця за мяжу паўцякалі. А самому і старасць спакойна сустрэць не даюць. Улада ўсё нешта прыдумвае, каб забраць тое, чаго ў мяне няма. Усё я нешта ім вінен. Думаў некалі хоць на пенсіі адпачну. Дык ужо і надзеі на пенсію не маю. Выглядае на тое, што пенсійны ўзрост будуць павялічваць так імкліва, што я за ім не ўганюся. А каб і дацягнуў нейкім цудам, то ці мажліва выжыць на тую пенсію. Эх, вярнуцца б гадоў на дваццаць-трыццаць назад і пачаць спачатку!

Сумны маналог. А ўлічваючы тое, як іншыя суразмоўцы ў знак згоды заківалі галовамі можна было зрабіць выснову, што і ў іх сітуацыя падобная. І памяняць яе ўжо няма ні часу, ні сіл, ні надзеі...

А вось дваццаць-трыццаць гадоў назад сапраўды былі перспектывы, шанцы, надзеі, сілы і час... Дык што ж здарылася? Што маё пакаленне зрабіла не так?

Адказ на гэтае пытанне лаканічны, даходлівы, злы, справядлівы і гучыць як прысуд: — Усё! Усё зрабілі не так! Хоць была мажлівасць інакшага выбару. Але маё пакаленне выбрала гэты шлях. І тады, калі пасля скону Савецкага Саюза на яго нечакана звалілася свабода, яе, гэтую свабоду не ацанілі і не сталі бараніць. Яе проста выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах пакуль яна была. А ў гэты час, на іх вачах адбываўся злачынны гандаль і радзімай, і сумленнем, і гонарам, і будучыняй...

Былі і тыя, што не стамляліся настойваць, што трэба бараніць сваю свабоду, будаваць сваю краіну, змагацца за незалежнасць і выбіраць сваю ўладу. Яны ахвяравалі не толькі сваім часам, дабрабытам і ўласнай свабодай, але нават рызыкавалі жыццём. Былі, канешне, і ёсць дагэтуль такія героі і ў маім пакаленні. Але да крытычнай масы іх колькасць не дарасла. Маё пакаленне не пайшло за сваімі прарокамі, не скарыстала свайго шанцу, які яму ласкава падарыў лёс. І зараз яно наракае на гэты лёс і шкадуе страчаных гадоў...

Пакаленне маіх бацькоў не мела такога шанцу. Мой бацька дзіцянём кідаў камяні ў плечы ўзброенаму нямецкаму жаўнеру, які хацеў забраць бабіну гусь. Крыху пазней узброеныя савецкія салдаты забралі тую гусь у калгасны загон разам з іншай жыўнасцю і з яе гаспадарамі. Лёс не даваў пакаленню маіх бацькоў аніводнага шанцу на іншае жыццё. І то ім удалося выканаць сваю зямную місію — выхаваць тых, хто будзе шукаць і расказваць праўду, хто знойдзе і будзе адстойваць Курапаты, хто пойдзе за справядлівасць у астрогі і будзе рызыкаваць сваімі свабодай і жыццём, хто будзе адраджаць свае каштоўнасці і паказваць іншым праўдзівы шлях. Яны ў жудасных умовах выканалі сваю нацыянальную беларускую місію. Маё ж пакаленне мела шанц, якога не мелі іх бацькі. Але не скарыстала яго.

І зараз яму застаецца не вялікі выбар. Ці і далей наракаць на свой гаротны лёс, вінаваціць ва ўсім кепскую ўладу і з жахам назіраць за набліжэннем старасці, за ўцёкамі сваіх дзяцей туды, дзе папярэднія пакаленні вырашылі падобныя праблемы, ці ўсё ж пастарацца выправіць трыццацігадовую памылку, паказаўшы, што не толькі ў асобных яго прадстаўнікоў, але і ў усяго пакалення ёсць годнасць, гонар, сумленне, сорам і адказнасць перад будучыняй.

Але ў кожным выпадку, пры любым развіцці падзей наступнае пакаленне зробіць свае высновы з жыцця папярэднікаў. Прынамсі задумаецца, ці варта губляць трыццаць год, каб пасля наракаць на лёс і баяцца старасці.

Відаць, у тым і ёсць гістарычны сэнс і правільнага і памылковага выбару кожнага пакалення. Кола гісторыі ўсё адно пойдзе сваім шляхам і прыйдзе да належнага выніку. А кожнае пакаленне мае шанц быць не страчаным у гэтым працэсе. Не паасобныя яго героі, якіх зразумела што мае кожная эпоха, але цэлае пакаленне.

У майго ж пакалення для гэтага засталася апошняя мажлівасць.

❖Віктар САЗОНАЎ



# Лабастыя

Метапамантыя гэта страчанае мастацтва прадказвання будучых пачынаў чалавека і яго магчымых дасягненняў з яго ілба. Не варта яго ўваскрашаць, гэтае мастацтва. Ну, хіба хто хоча, каб вярнуцца ў тыя дні, калі ўсе з нецярпеннем культывавалі ўсялякія мастацтвы варажэння, як, напрыклад: катапрамантыю (з люстэрка), гастрамантыю (з жывата), антрапамантыю (з чалавечых вантробаў) або стыхамантыю (з тэкстаў Сібіліі). Сёння гэта здаецца быць інфантыльным. Але ці сёння не становіцца ўчора? Давайце паглядзім на ілбы палітыкаў. Некаторыя з іх маюць іх вузкія, некаторыя шырокія, выпуклыя або ўвагнутыя, высокія і нізкія, ці амаль роўныя з патыліцай. Прытым апошнія, здаецца, у пераваае, што не здзіўляе, з таго часу калі палітыка, па меншай меры ў польскім бардэлі, перастала быць мастацтвам, і стала паспалітай прафесіяй параўнальнай з самай старой у свеце. Справа не ў форме ілбоў палітыкаў, хоць больш даверу маем да тых з шырокімі і выпуклымі ілбамі, а не ўвагнутымі і вузкімі. Першыя з іх, тэарэтычна, больш падыходзяць да палітыкі, быццам бы сведчаць аб філасофскім розуме і рэфлексіўнай натуры, аб мудрасці. Другія — практычна дамінуючыя ў палітыцы — аб раптоўнасці і паверхоўнасці мыслення. Праўда, я сустрэў чалавека, які адчуваў да палітыкі незвычайную агіду, а яго лоб быў такі шырокі, як і выпуклы. І настолькі шырокі, што яго вочы амаль находзілі на скроні. А такі выпуклы, што пад яго авалам амаль немагчыма было ўбачыць нос. Здавалася б, што гэта геній, таму што ў кантэксце тэарэтычных магчымасцей фізіянамічнага выгляду пасаваў як цвік да малатка. Або магчымы ідыёт, таму што маючы тааакі твар на практыцы адмаўляўся ад любой палітыкі. Аказалася, што ані крышкі — гэта быў звычайны чалавек крыху саромеючыся сваёй выдатнай фізіяноміі. Ён распавёў мне сакрэты метапамантыі, якой займаўся з таго моманту, калі свядома ўбачыў свой твар у люстэрку. Гэты своеасаблівы вопыт дзяцінства ці ранняга юнацтва, калі раптам выходзіць з несвядомасці асабісты твар, быццам бы заспеты пры злачынстве інтымнага сужыцця з нашым Я. Твар, гэта я, можна сказаць! Дарэчы, гэта захапляльны момант. З тых часоў, як мне здаецца, адбываецца фундаментальны прарыў. Або пакідаем твар у люстэрку, аддаючы сябе самаўлюбёным селебрацыям над ім да канца сваіх дзён, або бярэм яго ў жыццёвы шлях, пастаянна паглыбляючы сваю інтымную сувязь са сваёй уласнай ідэнтычнасцю. Іншая справа з палітыкамі, асабліва калі ўспомніш некаторых палітыкаў, у якіх такія інтымныя адносіны паміж уласным тварам і ўласным Я. Але гэта, верагодна, таму што некаторыя палітыкі нарадзіліся без твару. Або пакінулі яго ў люстэрку дзяцінства.

Тэму метапамантыі пакінем у спакоі. Хто клапоціцца, што адзін палітык мае лоб як з-пад грабка, а высокі як памежны мур. Той з «Помсты» Фрэдры. Але што добрае вынікае з гэтага для грамадзян?! А іншы — выпуклы і ў складкі, як бультэр'ер, які разважае над такімі дзяржаўнымі пытаннямі, каму б тут перагрызці горла. Ой, вынікае вельмі шмат. Можна пра такія параўнанні напісаць пару дзясятак старонак, не забываючы пры гэтым пра гендарную роўнасць, але хопіць. Пра палітыкаў / палітычак я сказаў, што хацеў. І больш не хачу. Скажу яшчэ некалькі слоў пра палітыку. Хоць пішучы пра гэта, няма ніякага спосабу, каб не звярнуцца да палітыкаў, якія кантралююць яе. Такі час! Каго цягне палітыка? Ці толькі цынікаў, паталагічных і безадказных асоб, прыдуркаў, махляроў, лісліўцаў і дармаедаў? Калі так, то гэтая палітыка сёння пацёмкінскае нахабства, фасад, за якім адзін аднаму руку мые.

❖Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Штраф за прамоцыю

Тыдзень таму надрукавалі мы ў «Ніве» інфармацыю, што ў адрас нашага магілёўскага пазаштатнага карэспандэнта Уладзіміра Лапцэвіча было складзена 7 асобных пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні за матэрыялы журналіста, якія былі апублікаваныя ў нашым тыднёвіку за апошнія два месяцы. Вінаваціўшыя яго міліцыянты палічылі, што злачынствам з'яўляецца публікаванне ягоных матэрыялаў у газеце без акрэдытацыі ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. Калі глянуць на такую логіку, то кожны допіс чытача, пісьменніка ці гістарычнага публіцыста з Беларусі ў рэдакцыю ў Беласток нясе пагрозу для бяспекі саміх аўтараў. А гэта ўжо не жарты, але рэчаіснасць паранаічнай улады, якая не цярпіць любой праявы журналісцкай ці чалавечай незалежнасці.

Спадара Лапцэвіча Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь павінна менавіта ўзнагародзіць за ... прамоцыю сваёй краіны па-за яе межамі. Злачынствам нашага магілёўскага сябры аказалася тое, што ён у сваіх допісах паказвае самыя цікавыя на ягоную думку сайты беларускай віртуальнай прасторы. Аддаючы свой вольны час пошукам цікавага і карыснага ў беларускім інтэрнэце, даносіў ён нашым чытачам свае прапановы з культурнага, літаратурнага, грамадскага, навуковага жыцця Беларусі. Ягоныя прапановы падыходзілі іх аматарам беларускасці. Асабліва маладыя людзі ў бязвізавым рэжыме маглі вандраваць па прасторы, якою можна ганарыцца, нягледзячы на ўсе складанасці жыцця аўтарытарнай сістэмы краіны.

Аднак уся праблема заключаецца ў слове сістэма. Відаць сістэма мясцовай, магілёўскай улады не магла сцярпець ягоных журналісцкіх расследаванняў як карэспандэнта агенцтва БелаПАН наконт розных асаблівасцей жыцця горада і рэгіёна. Дайце чалавека, а параграф знойдзем, здаецца, у духу сталінскай рэпрэсіўнай «справядлівасці» мелюць сёння жорны беларускай пракуратуры, судоў, міліцыі і спецслужбаў. І гатовы яны ісці на любую правакацыю, не звяртаючы пры тым увагі на іміджавыя кошты, якія ад гэтага працэсу напэўна атрымаюць беларускія ўлады і яе прадстаўніцтвы ў Польшчы ад нашых чытачоў. Нашаму тыднёвіку ўжо больш за шэсцьдзясят гадоў і спецыяльнай любоўю (з невялікімі выключэннямі) беларускіх дзяржаўных органаў на працягу ўсяго свайго існавання мы не карысталіся. А цяпер палітычную правакацыю супраць кволым парасткам беларускай незалежнай журналістыкі прыкрываць нашай рэдакцыяй лічу проста агідай. І менавіта тыдзень таму, у дзень выхаду «Нівы» з друку, у чацвер 29 чэрвеня ў судзе Ленінскага раёна Магілёва адбылся разгляд справы, у час якой Уладзімір Лапцэвіч атрымаў ад суддзі Алены Літвінавай пастанову аб яго пакаранні **штрафам у памеры 45 базавых велічынь (1035 рублёў)** за парушэнне ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях Рэспублікі Беларусь (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Размер штрафу вельмі вялікі і, відаць, суддзя паслухмяна выконвала загад кіраўніка дзяржавы пра беларускую мару — пяцьсот долараў. Але з адным самым важным адрозненнем: забраць для дзяржавы ў людзей такую суму, а не даць людзям.

У час суда Уладзімір Лапцэвіч даказваў усе абсурднасці абвінавачання ўключна з даведкай ад нашай рэдакцыі, якую мы таксама друкавалі ў папярэднім нумары. Трэба адзначыць што падтрымаць журналіста прыйшлі ў залу суда сябры па пяры і грамадскія актывісты. Падчас разгляду справы Літвіна выдаліла з залы праваабаронцаў Барыса Бухеля і Валадара Цурпанава, якія, на яе думку, паводзілі сябе не належным чынам. Уладзімір Лапцэвіч адмовіўся прызнаваць сваю віну ў здзяйсненні інкрымінаваных яму правапарушэнняў. „Я лічу, што гэта абсалютна надуманае, неправамернае і, па сутнасці, абсурдная ўстаноўка і сцвярджэнне, як міліцыі, так і ў дадзеным выпадку ўжо і суда. І, натуральна, я буду абскарджваць гэтае рашэнне, таму што гэта — абсурд, іншым словам гэта складана пазначыць, і з ім трэба неяк змагацца. Распаўсюджваць інфармацыю, чым у дадзеным выпадку я займаюся, гэта права кожнага чалавека замацаванае адпаведнымі нарматыўнымі і заканадаўчымі актамі", — адзначыў пасля суда Уладзімір Лапцэвіч.

❖Яўген ВАПА

# Рознагалоссе па-беларуску

«Рознагалоссе» гэта беларускае музычнае мерапрыемства накіраванае да жыхароў Белавежы і наваколля, а таксама да турыстаў, якія ў летнім сезоне шматлюдна наведваюць Белавежскую пушчу. Ініцыятарам і галоўным арганізатарам «Рознагалосся» з'яўляецца працаўнік Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі — старшыня Таварыства сяброў Белавежы, якое ладзіць беларускія мерапрыемствы ў гэтай мясцовасці. 16 чэрвеня ў рамках праекта «Рознагалоссе — цыкл музычных прэзентацый беларускай нацыянальнай меншасці» адбыўся канцэрт пятага выпуску згаданага мерапрыемства.


Калектыў «Жаваранкі» з Махнатага


Юліта Кічкайла, побач – Марк Зубрыцкі


«Цаглінкі» з Ляўкова



— «Рознагалоссе» гэта свая беларуская імпрэза, падчас якой прэзентуем беларускія песні і прамуем нашу культуру і традыцыі. Кожны год арганізуем прыблізна па чатыры канцэрты і ў выніку наладзілі іх ужо каля дваццаці. Плануем, каб падчас кожнага канцэрта выступілі прынамсі чатыры выканаўцы. Стараемся, каб калектывы мяняліся і прэзентавалі розную музыку — ад фальклору да эстрадных твораў. Мы адразу запланавалі, што будзем прэзентаваць усе віды беларускай музыкі і таму наша мерапрыемства назвалі «рознагалоссем у музыцы», — сказаў **Марк Зубрыцкі**.

Непадалёк ад сцэны на адкрытым паветры працаваў гастранамічны аб'ект. Частка турыстаў і жыхароў Белавежы ды наваколля сядзелі за сталамі і адтуль назіралі за выступамі. Публіка, сярод якой было многа асоб у старэйшым узросце, размясцілася таксама на лаўках, расстаўленых насупраць сцэны.

Першым выступіў беларускі хор «Цаглінкі» з Ляўкова пад кірункам Міколы Мяжэннага. Харысты выканалі ажно 11 песень, у тым ліку дзве на словы Міколы Варанецкага.

— Мікола Варанецкі — беларускі паэт з Альхоўкі, якога вершы падыходзяць да пераўтварэння ў песні. Я састаўляю да іх музыку. Мы сёння праспявалі дзве песні на яго словы — «Семяноўская чайка» і «Песня далёкая і блізкая», якія расслаўляюць Нараўчанскую зямлю, — сказаў пасля выступу «Цаглінак» Мікола Мяжэнны, які састаўляў акампанемент для хору на акардэоне. — Мы сюды трапілі ў рамках супрацоўніцтва асяродкаў культуры ў Нараўцы і Белавежы і ў выніку нашага сяброўства з белавежскім калектывам «Ручаёк», які працуе пад кіраўніцтвам Марка Зубрыцкага. Сёння частка нашых харыстаў па асабістых прычынах не змагла даехаць у Белавежу і мы запрэзентаваліся ў абмежаваным складзе, але падбадзёраныя публікай далі доўгі канцэрт. Тут вельмі добрая атмасфера для спеву. Вакол шуміць пушча, ёсць чыстае паветра, а публіка, сярод якой многа турыстаў, з энтузіязмам успрыняла наш выступ. Канцэрт нашага хору вяла Людміла Максімюк, якая нядаўна за прапагандаванне беларускай песні і культуры атрымала званне «Заслужаны дзеяч культуры».

Жанчыны з хору «Цаглінкі» адзначылі, што раней выступалі ў Белавежы падчас «Купалля» і «Ператоча», а на «Рознагалоссі» спяваюць упершыню.

— Нам прыемна, калі нашы песні падабаюцца не толькі мясцовай публіцы, але і турыстам, якія прыязджаюць сюды з розных куткоў Польшчы і замежжа і хочуць слухаць нашы беларускія песні, — заявілі ляўкоўскія харысткі.

Перад белавежскай публікай удала выступіла невідучая **Юліта Кічкайла**, якая навучылася добра спяваць па слыху. У свой рэпертуар співачка ўключыла ўсходнеславянскія, у тым ліку і беларускія песні.

— Я вельмі люблю спяваць, выступаць перад публікай. Калі спяваю, адчуваю сябе шчаслівай. Цешаць мяне воплескі людзей. Раней я спявала ў Хітрай і Трывежы і там таксама мой выступ спадабаўся публіцы, — заявіла Юліта Кічкайла, якая штодзень займаецца ў Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы.

Публіцы спадабаўся таксама выступ калектыву «Жаваранкі» з Махнатага, якому акампанемент на акардэоне састаўляе Марк Зубрыцкі.

— Я рада, што ў Белавежы арганізуюцца беларускія мерапрыемствы. Цешыць, што ў школе ў Белавежы аднавілася навучанне беларускай мове, што не загіне наша спадчына. Для мяне важныя беларуская мова, беларуская песня і культура, якія жывуць у нас дзякуючы такім асобам як Марк Зубрыцкі. Сарганізаваў ён у Белавежы многа беларускіх канцэртаў. Разам з Анджалінай Масальскай наладзіў многа беларускіх вечарын у школе, у якіх наш калектыў «Жаваранкі» прымаў удзел. Марк Зубрыцкі займаецца з беларускім калектывам «Ручаёк» у Белавежы. Мы ўдзячны яму, што згадзіўся займацца і з «Жаваранкамі», — сказала Анна Іванюк з Махнатага. Арганізацыйны кіраўнік калектыву «Жаваранкі» Аляксей Герасімюк адзначыў сардэчную атмасферу белавежскага мерапрыемства і энтузіястычнае стаўленне да выканаўцаў з боку турыстаў, якія беларускія песні ўспрынялі бурнымі апладысментамі.

Зоркай канцэрта быў калектыў «Натураль» з Беластока, які дзейнічае з канца 2015 года.

— Я многа гадоў спяваў па забавах у калектыве «Сэрвар», наведваючы практычна ўсе вёскі ў наваколлі Гайнаўкі, дзе ладзіліся вясковыя забавы. У Беластоку мы з сябрамі заснавалі калектыў «Натураль». Мы зараз перш за ўсё іграем на закрытых мерапрыемствах, вяселлях, дансінгах. У нашым рэпертуары многа беларускіх песень. І хаця мы з Марленай выхадцы з Гайнаўскага павета, на Гайнаўшчыне наш «Натураль» яшчэ не іграў. Таму сёння адбыўся наш дэбют на роднай зямлі. Гэта для нас таксама свайго роду рэклама, — сказаў лідар калектыву «Натураль» **Рафал Свірыдзюк**, ураджэнец Кленік. Апрача музыкаў запрасіў ён у склад калектыву Марлену Бяглюк з Гайнаўкі, якая 10 гадоў займалася ў Студыі эстраднай песні ГДК і 6 гадоў у беларускім калектыве «Знічка» ў Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, пераможцу, між іншым, фестывалю «Беларуская песня».

— Для мяне спяванне ў калектыве «Натураль» гэта новы выклік, які патрабуе большай ангажаванасці, чым выступы ў гайнаўскіх калектывах. Я ўжо канчаю вучобу ў вышэйшай навучальнай установе ў Варшаве і магу больш часу адвесці калектыву «Натураль». У нас цікавы беларускі рэпертуар. Спадзяемся, што прынамсі частка публікі пачне танцаваць пад нашы творы, — заявіла **Марлена Бяглюк**. І сапраўды, праз нейкі час маладыя асобы з публікі пачалі танцаваць.

Марк Зубрыцкі паведаміў, што падчас першага канцэрта пятага выпуску «Рознагалосся» ў Белавежы выступілі калектыў народнага танца «Перапёлка» з ГДК, Калектыў Лосіцкай зямлі, калектыў «Аксель» з Нарвы і беларускі калектыў «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы.

— Для гурта «Сунічкі» я састаўляю акампанемент на акардэоне. Яго музычным апекуном з'яўляецца настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская. У супрацоўніцтве з Анджалінай я пішу праекты, у рамках якіх мы арганізуем беларускія вечарыны ў нашай школе. Запрашаем на вечарыны гасцей. У рамках праекта мы купілі касцюмы для дзвюх груп Калектыву беларускай нацыянальнай меншасці «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы, як мы яго афіцыйна назвалі ў праекце, — расказаў Марк Зубрыцкі.

Апякун «Сунічак» Анджаліна Масальская паведаміла, што ў малодшай і старэйшай групах ёсць беларускага вакальнага калектыву займаюцца дзецы, якія вучацца беларускай мове. Падчас цэнтральных спаборніцтваў сёлетняга Конкурсу беларускай песні старэйшая група «Сунічак» заняла трэцяе месца, а малодшая атрымала вылучэнне.

— Выступленне з беларускімі песнямі перад публікай гэта для нашых дзетак новы выклік, але і вялікае вылучэнне. Падчас папярэдняга канцэрта «Рознагалосся» нашы дзеткі выступілі на сцэне перад публікай нашага беларускага мерапрыемства, у тым ліку перад бацькамі і сямейнікамі, што ім спадабалася, — сказала настаўніца **Анджаліна Масальская**, якая вяла другі сёлетні канцэрт у рамках «Рознагалосся». — Бачу, што сённяшнія выступы таксама падабаюцца публіцы. Цешыць, што сабраным падабаюцца нашы беларускія песні.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Яднае малітва і вера

Размова з **Аленай РУТКЕВІЧ**, дырыжорам Народнага ансамбля духоўных спеваў „Праабражэнне" Раённага цэнтра культуры і мастацтва ў Шчучыне.



**— З якога часу існуе Ваш ансамбль і хто ў ім спявае?**

— Хор быў заснаваны ў 1997 годзе, у 2000 годзе яму прысвоена званне „народнага"...

**— Што абазначае „народны"?**

— Гэта абазначае што калектыў заслужыў узнагароды, пацвердзіў сваё званне, спяваў спецыяльную праграму, выступаў на фестывалях і займаў прызавыя месцы. Мы выступалі на гродзенскім „Каложскім Благавесце", былі лаўрэатамі другой і трэцяй ступеней, на фестывалі „Магутны Божа" таксама сталі лаўрэатамі трэцяй ступені. Сёлета нас запрасілі сюды. У хоры любіцелі і прафесіяналы. Некалькі чалавек мае музычную адукацыю, ёсць людзі, якія не маюць ніякай музычнай адукацыі — яны арыентуюцца на свой слых. Усіх, агульна, яднае малітва і вера, таму што амаль усе з нас спяваюць у храмах. Вось я, для прыкладу, кірую хорам і з'яўляюся рэгентам у царкве. Яшчэ ў мяне і свецкая пасада — дырэктар школы...

**— У Шчучыне?**

— У Астрыно, але гэта Шчучынскі раён. Гэта ўсё надае рух, усё памагае, бо без веры цяпер нікуды. Калі, вось, не сходзіш у царкву на службу, то пасля тыдзень нейкі разбіты.

**— Душа не працуе?**

— Так; яна атрымлівае там боскую ласку. Хор „Праабражэнне", як праабразіўся Гасподзь на гары Фавор, так і мы. Гэта вялікае свята, я ведаю, што і тут у вас гэта вялікае свята, у Польшчы. Калі мы спяваем, мы самі праабражаемся, таму што ўкладваем часціцу сваёй душы ў нашы песнапенні.

**— Усе Вашы харысты са Шчучына?**

— Са Шчучына. Ёсць людзі, якія раней былі ў нашым калектыве, яны выехалі, але яны прыязджаюць выступаць разам з намі. Вось тры асобы з Мінска прыехалі спецыяльна, каб спяваць з намі.

**— А якая музыка ў Вашым рэпертуары?**

— Класіка, духоўная музыка — і Бартнянскі, і старынныя валаамскія распевы, і партэсныя распевы ёсць, і рукапісы XVIII века, і восьмага века; наш рэпертуар ахоплівае розныя эпохі. Спяваем яшчэ і свецкую музыку.

**— А з сакральнай музыкі — толькі праваслаўную спяваеце?**

— Толькі праваслаўную.

**— У ансамблі ўсе праваслаўныя?**

— Усе праваслаўныя.

**— З аднаго храма?**

— З розных. З Мінска, у Шчучыне ў нас два храмы.

**— Апрача класікі і сакральнай музыкі — ці ў рэпертуары ёсць больш папулярная музыка?**

— Ёсць народная, але гэта не проста фальклор, але ў апрацоўках кампазітараў — „Как прекрасен мір" Аліны Безенсон, „Звані званар" спяваем, вельмі любім Шашкова, напрыклад „Як памерла матулька" — яна такая трагічная.

**— Вы бывалі...**

— У 2005 годзе мы выступалі на фестывалі ў Гайнаўцы, дзе атрымалі прыз сімпатыі публікі.

**— А якія азімуты вашых падарожжаў?**

— Гайнаўка, Беласток, Магілёў, Гродна, Мінск...

**— Гэта Польшча і Беларусь, а ў іншых краінах бывалі?**

— Не, у нас вельмі складаная сітуацыя з аплатамі, усюды трэба плаціць. Дзяржава не надта аплачвае, усяго па сутнасці дабіваемся ўласным высілкам. Людзі хочуць выязджаць, бо калі сядзіш на месцы, то які з гэтага толк? І мы стараемся выязджаць, наколькі дазваляюць фінансавыя магчымасці.

**— Дзякую Вам за размову і жадаю ўсяго добрага.**

Тэкст і фота **Аляксандр ВЯРБІЦКІ**



# Звычайныя радасці

Да шчасця не трэба шмат. Хопіць звычайны ровар, выгодныя штаны, кашуля, абавязкова чыстыя і, самае асноўнае, нейкая мэта. У гэтым выпадку была ёю вёска Давідавічы альбо як хто хоча, Стральцы. Стральцы менавіта таму, што любілі там калісь страляць; прытым польскія каралі адарылі іх за гэта шматлікімі прывілеямі і аблягчэннямі цяжкай, вясковай долі. Цяпер адбывалася там чарговая, сентыментальная сустрэча аўтарства нашага славутага генеолага Марка Карнілюка.

Да Целушок заехала я на аўтамабілі, а далей апошніх некалькі кіламетраў пераадолела на ровары. І менавіта гэтыя кіламетры аказаліся найбольш цікавымі. У Гражыны Харытанюк-Міхей, даследчыцы беларускай літаратуры і культуры, солтыскі Целушок пакуль толькі адзін ровар у клуні. Другі, калі трэба, пазычае ад суседкі Гэлі. Да сустрэчы ў Давідавічах часу засталося няшмат. Закінуўшы неабходны багаж у прычэплены да руля кошычак, падаліся мы ў дарогу. У канцы Целушок замахала да нас рукой агароднае пудзіла. Нягледзячы на сонечнае надвор'е, стаяла яно ў капелюшы, фуфайцы, з прывязанымі да пояса банкамі з-пад піва. Гатовы рэквізіт для лялечнага тэатра да пастаноўкі пра вясёлае, калгаснае жыццё. Па-над палеткамі недаспелага збожжа быццам балерына станцавала сарна, далей, ужо менш відовішчна, паскакаў малы, худы заяц. На хвіліну затрымаліся мы пад велізарным помнікам жаўнерам Арміі Краёвай. Яго вяршыню вянчае, як кажуць мясцовыя, велізарная буква «Я» — сімвал Польшчы ў безупынным баі. У падножжа завялыя букеты, між іншым, ад Патрыятычнай Ягелоніі і Тэрытарыяльнай абароны. Калісь Гражыну па загадзе прывозілі сюды з бельскай школы. Цяпер прыехала сама, пры тым на ровары і без букетаў.

За Паўламі, у полі, пасярод магіл і яшчэ не ссечаных дрэў, красуецца сіняя, драўляная царква. Так хацелася паглядзець яе, прачытаць прозвішчы пакойнікаў. Пры самой дарозе, за вёскай у кустах скрыўся аднаўлены жыллёвы блок. Занавескі візяць толькі ў некаторых вокнах, прытым не белыя, але шэрыя ад старасці. Перад блокам вялікі, каталіцкі крыж. Запыняемся на хвілінку, каб прачытаць надпіс на дошчачцы. Гэта падзяка за вяртанне на «айчыны лона». Жылі тут калісь працаўнікі мясцовага пэгеэра а пасля рэпатрыянты з Казахстана. Хто ведае, чым яны займаліся ў Казахстане, дзе жылі. Мабыць, у самой сталіцы. З вялікага горада лягчэй выехаць у свет, чым з глухой вёскі. І вось іх айчынным лонам стала шчырае поле і людзі, якім лягчэй гаварыць па-беларуску, чым па-польску. Дзяржава абяспечыла іх такімі-сякімі грашыма, было за што выпіваць. Ксёндз нават аўтамабіль падарыў, каб у касцёл ездзілі, а яны ў краму за півам гэтым аўтамабілем каталіся. Пасля паўцякалі, толькі не вядома куды, ці на сапраўднай айчыны лона, ці можа далей, на Захад.

Пад святліцай у Давідавічах, быццам на вясковым фэсце, чарга самаходаў. Мужчыны дакурваюць сігарэты, жанчыны зносяць талеркі з хатнімі пірагамі. Драўляны, невялікі будынак пахне толькі што завершаным рамонтам. На жаль, ашаляваны ён пластмасавым сайдынгам. Нават туалет не абсталявалі. За патрэбай па традыцыі трэба ісці за святліцу. Мясцовыя гавораць, што каштавала гэта цэлых дзевяноста тысяч. Цікава ці гэта сайдынг так падаражаў, ці можа нехта гэтыя грошы проста ў кішэнь сабе паклаў. Але гэта тэма на асобны аповед з гатунку дэтэктываў.

На сайдынгавых сценах развесілі некалькі копій старых фотаздымкаў. Маці Славіка Трафімюка — лідара калектыву «Ас» скардзіцца, што сфатаграфавалася ў змятай шлюбнай сукенцы. Везла яе ў валізцы ў сам Беласток. Фатограф, прозвішча якога забыла, знаходзіўся непадалёк парку Плянты. Муж у яе быў надзвычай прыгожы. Славік вельмі падобны на бацьку Міколу, па-вясковаму званага Лукашом. Жанчына дзеліцца гісторыяй звычайнага знаёмства са сваім прыгожым мужыком. Ён пасвіў кароў, а яна, загублена запытала ў яго пра дарогу. Добра ім разам жылося. Пасля смерці мужа ўдавой заапекаваўся менавіта Славік.

Няма Славіка сёння ў святліцы, якраз з «Асам» выступае на фэсце ў Саколцы. Але ёсць тут ягоная работа — перапіс усіх давідаўскіх сужонстваў з 1929 па 1943 гады.

— Найвялікшай папулярнасцю заўсёды карыстаюцца шлюбныя здымкі, — сцвярджае Марк Карнілюк. На адным са здымкаў з саракавых гадоў пасярод вясельнікаў сядзіць зухаваты юнак з пісталетам. Мабыць, каб абараняць ад гойсаючых кругом бандаў. Побач перавязаны ручніком маршалак і госці з прышпіленымі да святочнай вопраткі аздобленымі зелянінай белымі лентачкамі.

— Жонак найчасцей выбіралі з уласнай альбо суседнай вёскі, таму што не жонка, але яе зямля была тады найважнейшай, — заўважыў нехта з прысутных.

Адзін з архіўных давідаўскіх здымкаў апынуўся на вокладцы «Мёду» — навейшай кніжкі, таксама прысутнай на гэтай сустрэчы Барбары Гуральчук.

На здымку з бежанства ў сібірскай вёсцы сядзіць дзед з барадой і жанчыны. За імі густы, драўляны плот, драўляныя здобленыя хаты і гаспадарчыя будынкі.

Слінкі цякуць на сам успамін давідаўскіх пірагоў. Жывуць тут сапраўды таленавітыя гаспадыні. Прытым назносілі іх столькі, што не пераесці. Спадарыня Трафімюк цешыцца, што змагла выйсці з хаты, пасядзець з людзьмі, паўспамінаць. А ўсё дзякуючы Марку, ён жа ж нас усіх тут сабраў.

Дахаты вярталіся мы праз пахучы суніцамі лес, сатканыя казачнымі колерамі лугі і старадаўнюю вёску Сацы. Неабходна было зрабіць здымак бабулям у квяцістых хустачках на фоне прыхатніх звінеючых каляровымі званкамі-самасейкамі кветкавых агародчыкаў. І яшчэ аздараўляльны дождж, які з'явіўся раптам па дарозе, не пакідаючы на нас сухой ніткі.

І чаго ж яшчэ да шчасця трэба.

Тэкст і фота **Іаанны ЧАБАН**

# Пярэдняя дамба супраць беларусаў

фота Аляксандра Вярбіцкага



**працяг з 27 н-ра «Нівы»**

## Што напісана Тапаром...

Беластоцкі ваявода магістр інжынер Станіслаў Топур, Беласток, 28 лютага 1976 года. ZIR.M-402/Zb.S./2/76. Дазвол на экспрапрыяцыю зямлі і сельскагаспадарчых і жыллёвых будынкаў на тэрыторыі праектаванага Вадасховішча Семяноўка і канала Нарва — Супрасль у даліне ракі Верхняй Нарвы.

Ваяводская ўправа Сельскагаспадарчых інвестыцый у Беластоку, рэалізуючы праграму звязаную з пабудовай вадасховішча Семяноўка і канала, на падставе арт. 16 уст 1. закона ад дня 12 сакавіка 1958 г. аб прынцыпах і спосабе экспрапрыявання нерухомасцей і ў сіле распараджэння Рады Міністраў Польшчы ад дня 27 мая 1974 года ў справе перадачы некаторых правоў з абсягу органаў дзяржаўнай арганізацыі вышэйшага ўзроўню ў кампетэнцыю органаў улад ніжэйшага ўзроўню (...), **ветліва просіць дазволу** экспрапрыявання грунтоў на плошчы 3718 га і перасяленне гаспадарчых адзінак у колькасці 277 **штук** распалажаных на тэрыторыі вадасховішча Семяноўка і канала Нарва — Супрасль, прадбачанага да рэалізацыі ў 1977-1982 гадах.

Канцэпцыя пабудовы вадасховішча Семяноўка ў верхнім адрэзку ракі Нарвы ўзнікла ў момант пачатку падрыхтовак да рэгуляцыі ракі Нарвы і меліярацыі зялёных угоддзяў, распаложаных у яе даліне. Праграма меліярацыйных прац у даліне Нарвы была ад пачатку сцісла павязана з адначасовым забеспячэннем адпаведнай колькасці вады для наваднення лугоў і паш, што магчымае толькі ў выпадку пабудовы вадасховішча. (...)

Комплексныя інвестыцыі ў даліне ракі Нарвы заключаюцца на: рэгуляцыі ракі на адрэзку 169 кіламетраў, выкананні меліярацыі і паслямеліярацыйным добраўпарадкаванні ўключна з пабудовай сельскагаспадарчых дарог на плошчы 22 тысяч гектараў, пабудове вадасховішча на 79,5 мільёнаў кубічных метраў вады, якое дазволіць наводніць 31 тысячу гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. Мае яно служыць для забеспячэння ў ваду насельніцтва і прамысловасці горада Беластока. Мае быць выканана сістэма аўтаматычнага кіравання гідраўлічных установак у далінах Нарвы і Супраслі, якая будзе абслугоўваць 50 запрудаў і вадапомп — гэта было папярэджана прыхільным рашэннем Калегіі Міністэрства сельскай гаспадаркі **ў 1968 г.** у справе інвестыцыйных намераў у даліне ракі Нарвы.

Ваяводская камісія планавання ў Беластоку 12 ліпеня 1975 г. выбрала лакалізацыю вадасховішча ў Семяноўцы плошчай 350 га і канала Нарва — Супрасль даўжынёй 17 кіламетраў ды спадарожнічаючых інвестыцый (база выканаўцы і інвестараў).

Асноўнай мэтай вадасховішча з'яўляецца збор вады для наваднення больш за 31 тысячу гектараў угоддзяў (...), з якіх змеліяравана ўжо каля 12 тысяч гектараў (...). Незалежна ад асноўнай мэты, якой з'яўляецца сельская гаспадарка, вадасховішча створыць умовы да гаспадарчай актывізацыі тэрыторыі вакол вадасховішча і магчымасць развіцця адпачынкавых цэнтраў і водных спортаў на патрэбы Беластоцкай прамысловай акругі і горада Гайнаўкі. У сувязі з пабудовай гэтага вадасховішча, угоддзі, якія знаходзяцца ў чашы вадасховішча і ў яго непасрэдным суседстве і на шляху канала Нарва — Супрасль **мусяць быць экспрапрыяваны**, а пабудовы перанесены ў іншае месца. (...) Памер экспрапрыяцыі паказваюць наступныя даныя, пералічаныя ў табліцах. Агульная паверхня экспрапрыяцыі: 3 718 га, у тым ліку ралля — 533 га, зялёныя ўгоддзі — 2418 га, лясы — 399 га, іншае — 368 га. Экспрапрыяваныя гаспадарчыя адзінкі — 277 **штук**, лік сем'яў ахопленых экспрапрыяцыяй — 292 адзінкі, лік насельніцтва ахопленага экспрапрыяцыяй — **990 асоб**.

Банітацыйныя класы экспрапрыяваных грунтоў: клас IV — 373 га (10 %), клас V — 1667 га, клас VI — 1310 га, (...) пабудовы і аблогі — 368 га.

Стан пабудоў на экспрапрыяванай пад вадасховішча тэрыторыі. Жыллё: 22 у вельмі кепскім тэхнічным стане, у кепскім — 67, у сярэднім — 99 у добрым — 22; драўляныя — 265, цагляныя ці з пустакоў — 13. Стадолы: 28 у вельмі кепскім стане, 81 — у кепскім, 101 — у сярэднім, 73 — у добрым; драўляныя — 275, з цэглы ці пустакоў — 6. Хлявы, аборы, стайні: 69 у вельмі кепскім стане, 141 — у кепскім, 118 — у сярэднім, 73 — у добрым. Драўляных — 461, цагляных — 10. Пабудовы ў стане кепскім і вельмі кепскім налічваюць 40% ад агульнага ліку. (...)

Большасць **жыхароў вёсак** прызначаных для высялення гэта старэйшыя людзі. Больш за 40% ад агульнага ліку жыхароў за 50 гадоў, а 26% ад агульнага ліку гэта людзі ў пенсійным узросце. Моладзь з гэтых вёсак у пераважнай колькасці пасля завяршэння пачатковай школы перасяляецца ў гарады — у сярэднія школы або на працу. Вялікая колькасць людзей пастаянна або час ад часу працуе на блізкіх прадпрыемствах.

З праведзеных уступных размоў вынікае, што вялікая колькасць уласнікаў гаспадарак не хацела б іх далей весці, — мяркуе ваявода.

## «Штукі» на выселкі

Куды ж падзецъ жыхароў, якія яшчэ жывуць? Найлепш было б, калі б куды-небудзь рассялілі самі беларусы. З інвентарызацыі вынікае, што з Гмінная управы ў Нараўцы з калёніі Семяноўка гаспадарак для перасялення — 27, людзей — 93, з Тарнопаля — гаспадарак 18, людзей — 72, з Лукі — гаспадарак 106, жыхароў — 415. З гміны ў Шымках з Буд — 47 гаспадарак, людзей — 144, з Рудні — 23 гаспадаркі, людзей 77, з Боўтрык — 46 гаспадарак, людзей — 149, з Гарбароў — гаспадарак 8, людзей 31, з калёніі Бахуры — 2 гаспадаркі, 9 асоб. Гэта з тых вёсак, якія сапраўды перасталі існаваць на картах. Незалежна ад таго, ці сем'і падпісалі згоду на экспрапрыяцыю.

Чаго яны пажадалі за **страчаныя гаспадаркі** і жыллё на роднай зямлі? Кампенсацыю былі гатовы ўзяць 42 сем'і з Лукі, з семяноўскіх хутароў — 18, з Тарнопаля — 15, з Буд — 34, з Рудні 12, з Гарбароў 4, з хутара Бахуры 1, разам 149. Адыходзілі на сялянскую рэнту: з Лукі — 51, з калёніі Семяноўка — 7, з Тарнопаля — 4, з Боўтрык — 26, з Буд — 15, з Рудні — 11, з Гарбароў — 6, з калёніі Бахуры — 2, разам 122 асобы. Прысядзібны ўчастак пагадзіліся атрымаць 50 гаспадароў з Лукі, з калёніі Семяноўка — 25, з Тарнопаля 1, з Боўтрык — 39, з Буд — 29, з Рудні — 13, з Гарбароў — 10, з калёніі Бахуры — 2, разам 227 чалавек. Будаўнічы ўчастак гатовы былі прыняць 10 сем'яў з Лукі, 17 з калёніі Семяноўка, 8 з Тарнопаля, 14 Боўтрык, 2 з Буд, 6 з Рудні, 4 з Гарбароў — разам 61 чалавек. Заменнае жыллё згадзіліся атрымаць 10 сем'яў з Лукі, 5 з калёніі Семяноўка, 1 з Тарнопаля, 2 з Буд, 1 з Рудні, разам — 19 сам'яў. З «пажаданняў» наконт пабудоў 43 сем'і мелі прыняць кампенсацыю і будаваць самі, 45 мелі пабудаваць новы дом або ўжо яго пабудавалі, 27 сем'яў як кампенсацыю мела прыняць кааператыўную кватэру ў Беластоку, 61 гатовы былі будавацца ў новай вёсцы Новая Лука, 26 — планавалі атрымаць заменныя кватэры ў Міхалове, 19 — заменныя кватэры ў Рыбаках і Шымках, 7 — заменныя кааператыўныя кватэры ў Гайнаўцы, 1 — у Бельску-Падляшскім, 14 — заменнае жыллё ў Семяноўцы, 7 — заменнае жыллё ў Ляўкове, 1 — пражыванне ў доме апекі ў Ялоўцы, 6 перасяліліся да сваякоў у іншых мясцовасцях, 3 пайшлі жыць і працаваць у Ігнаткі, 1 сям'я выбрала пасяленне ў Васільках, а для 26 забудаванні перанёс інвестар. Паводле анкет, 94 сем'і мелі за рэнту ці кампенсацыю пабудавацца: у Міхалове — 22 «штукі» *(так напісана ў анкетах)*, у Рыбаках — 10, у Юшкавым Грудзе 1, у Засцянках 15, у Нараўцы — 3, у Семяноўцы — 21, у Новай Луцэ — 10, у Ляўкове — 4, у Іванках — 1, у Тарнопалі — 1, у Гайнаўцы — 4, у Гарадку — 2. Інвестар адразу засцярог, што не ўсе пажаданні можа задаволіць.

(працяг будзе)

Міра ЛУКША

## Дэмаграфія Нараўчанскай гміны

Нараўчанская гміна Гайнаўскага павета знаходзіцца па-суседску з Белавежскай, Гайнаўскай, Нарваўскай і Міхалоўскай гмінамі ды Рэспублікай Беларусь. У ёй сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 25% плошчы гміны, а лясы — 65%.

Зараз у Нараўчанскай гміне ўсё менш і менш жыхароў. Цяпер — у канцы чэрвеня 2017 года — яна налічвае 3714 жыхароў. Найбольшая вёска Нараўка налічвае 872 чалавекі. У Семяноўцы пражывае 391 асоба, у Старым Ляўкове — 331, у Новым Ляўкове — 209, у Скупаве — 191, у Міклашэве — 171, у Плянце — 149, у Тарнопалі — 129, у Лешуках — 113 і ў Альхоўцы — 99.

Ніжэй сотні жыхароў налічваюць вёскі Ахрымы — 90, Свінарої — 87, Заблотчына і Стачок — па 70, Старое Масева — 62, Гушчэвіна — 59, Баб'я Гара — 54, Лесна — 50, Міхнаўка — 49, Новая Лука і Янова — па 45, Новае Масева — 36, Грушкі — 33, Падляўкова — 32, Гарадзіска — 31, Капітаншчына — 30, Пасекі — 29, Слабодка — 24, Бярнацкі Мост — 23 ды Крыніца і Мінкоўка — па 20.

Найменшыя населеныя пункты ў гміне гэта Семенякоўшчына — 17 жыхароў, Сушчы Барок — 16, Новіны і Парослае — па 12, Забрады — 10, Церамкі — 9, Замошша — 6, Баравыя — 6 і Ланчына — 5 ды ўсяго па двух жыхароў маюць Гнілец і Лазовае (апошняя гэта калёнія Новага Ляўкова).

Паменшала жыхароў у вёсках Альхоўка, Ахрымы, Міхнаўка, Баб'я Гара, Нараўка (тут на 6 чалавек), Семяноўка (на 10 чалавек), Скупава, Старое Масева, Стачок і Церамкі ды пабольшала, між іншым, у вёсках Лесна, Новае Ляўкова, Тарнопаль і Семенякоўшчына.

У Нараўчанскай гміне шчыльнасць насельніцтва складае 11 чалавек на квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадае 96 жанчын. Сёлета Ніне Янцэвіч са Скупава споўнілася 100 гадоў. Як радны Нараўчанскай гміны з гэтай нагоды жадаю ёй усяго найлепшага, а перш-наперш добрага здароўя.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ



## Новая святліца

У вёсках Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета сустрэнеце прыгожыя святліцы, перш-наперш драўляныя. Яны найлепш дапасаваныя да тутэйшай вясковай архітэктуры і пушчанскага краявіду. Такія вясковыя дамы культуры знаходзяцца, між іншым, у Ахрымах, Міхнаўцы, Нараўцы, Гушчэвіне, Плянце, Семяноўцы і Тарнапалі.

І вось у першую летнюю нядзелю, 25 чэрвеня гэтага года, прыгожую звонку і ў сярэдзіне драўляную святліцу з ганачкам здалі ў карыстанне ў пушчанскай вёсачцы Новае Масева (на здымку). Пабудавала яе гміна. Варта дадаць, што тут адзначаецца свята ў гонар св. Ануфрыя. З гэтай нагоды на пляцоўцы пры святліцы Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ды Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы ладзілі беларускі фэст пад лозунгам «І тут жывуць людзі». Было на ім даволі многа людзей з навакольных вёсак і вёсачак. А масяўчане бавіліся і цешыліся, што будуць мець сваю святліцу. Як кажуць, яна не будзе пуставаць.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі


фота Ганны Кандрацюк

# Найбольшае хваляванне, калі спяваеш для сваіх!

Наша сустрачанка **Вікторыя Гаць** пабывала 24 чэрвеня г.г. на «Купаллі» ў Ляневе. Вельмі ўразіў яе калектыў «Чыжавяне», які іграў не толькі дастойную ролю гаспадара, але і ўпрыгожыў свята беларускімі песнямі. Пра гурт «Чыжавяне» і іх песні распавёў **Андрэй Карнілюк**:

**Вікторыя Гаць:** — Каторы ўжо раз выступаеце на «Купалінцы» ў Ляневе?

**Андрэй Карнілюк**: — Пяты раз.

**ВГ:** — Аб чым вашы песні?

**АК:** — Нашы песні аб любові, жыцці, прыродзе, нашай мове і аб Беларусі. Адкуль яны бяруцца? Частку прывозіць наш інструктар Юры Ганевіч. Мы самі таксама шукаем песень у інтэрнэце, па людзях, у старэнькіх бабуль.

**ВГ:** — Вы ўжо пяты раз выступаеце ў Ляневе. Ці гэта не перaелася?

**АК:** — Нам вельмі прыемна, што можам выступіць у Ляневе, гэта вялікая імпрэза і вялікі для нас гонар.

**ВГ:** — А на «Купалле» ў Белавежу і Дубічы-Царкоўныя таксама збіраецеся?

**АК:** — Так, нас запрасілі ў Белавежу і Дубічы-Царкоўныя, таму што занялі месцы ў конкурсах беларускай і ўкраінскай песень.

**ВГ:** — Ці сёння вы праспявалі новыя песні?

**АК:** — Былі дзве новыя. Кожны год стараемся падрыхтаваць нешта новае. Спявалі, вядома, старыя песні і такія ўжо амаль забытыя.

**ВГ:** — Адкуль ваша захапленне песняй?

**АК:** — Я спяваю ад малога. Калісьці іграў і спяваў у ансамблі ў Кленіках, пасля былі бельскія «Куранты», а цяпер «Чыжавяне».

**ВГ:** — Вы шмат выступаеце. Ці лепш вам спяваць у чужых старонках ці для сваіх людзей?


Андрэй Карнілюк — першы справа

**АК:** — Пэўна што ў чужых старонках лягчэй!

**ВГ:** — Чаму?

АК: — Калі выступаем у сябе, тут заўсёды многа знаёмых і сяброў. І тады найбольшая трэма, хваляванне! Вось, нешта пераблытаеш і адразу возьмуць на языкі!

**ВГ:** — Дзякуем за размову і прыгожы выступ!

**АК:** — Дзякую!

# Пра музычныя густы

Малыя занатоўкі часам гавораць больш, чым абшырныя артыкулы.

Вось «у рукаве» сустрачанскай газеты «Васілёк» пазначаны любімыя музычныя гурты і салісты нашых сяброў. Тут апынуліся такія зоркі беларускай музычнай сцэны як Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч, гурты «Navi» і «Босае сонца». Любімыя песні гэта «Простыя словы» (НРМ) «Лета» (Паліна Рэспубліка), «Колеры» і «Новая вясна» (Босае сонца).

Не менш уразіла музычная актыўнасць сяброў, яны планавалі наведаць такія музычныя мерапрыемствы як «Купалле» ў Ляневе і Белавежы ды «Басовішча».

Любімы, беларускі сайт, гэта symbal.by.

А жывую музычную атмасферу Сустрэч «Зоркі» сёлета выдатна папоўнілі гурт «Хутар» з Гарадка і Аня Бяляўская з Нараўкі. Як не цікава, у іх рэпертуары на першым месцы былі таксама творы Зміцера Вайцюшкевіча!

**З–ка**


фота Ганны Кандрацюк
*Аня Бяляўская і сябры*

## УВАГА КОНКУРС! № 27/28-17

**Стаяць каля сцежкі Цюлькі,**
**На іх белыя кашулькі.**
**Сэрцы іх залатыя,**
**Адгадайце, хто такія?**
**Р......**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 16 ліпеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 23-17: канікулы. Узнагароды, беларускія кніжкі, выйгралі Караліна Лазарэвіч з Шудзялава і Магдалена Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

**Іван Карсунскі,** «Белы слон»
(НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку)

## Зоркі

Я ад імя ўсіх людзей
Дзякую вам за ўсё!
За бледнае святло ўначы,
За лямпачкі на небе,
За прыгожасць вашых палётаў,
За радасць, якую дарыце людзям,
За ўсё добрае, а нават дрэннае,
За Сустрэчы «Зоркі»
Дзякуем!


фота Ганны Кандрацюк

# Найлепшыя тэмы падказвае нам жыццё!

***Размова з Наталляй Васько, вучаніцай Гайнаўскага белліцэя, лаўрэаткай літаратурных і пластычных конкурсаў, шматгадовай сяброўкай Сустрэч «Зоркі».***

**Уля Марчук:** — Наталька, адкуль у Цябе ідэі на новыя творы?

**Наталля Васько:** — Гэта выходзіць спантанна. Калі здараецца нешта цікавае, адразу ўзнікае думка, што файна было б пра гэта напісаць. Думаю, што найлепшыя тэмы падказвае нам жыццё.

**УМ:** — Ці паказваеш свае творы камусьці, ці адразу дасылаеш на конкурс або ў «Ніву»?

**НВ:** — Найперш паказваю маме, каб яна прачытала і нешта сказала. Я ніколі не паеду, таксама, на дэкламатарскі конкурс, калі мая мама не пачуе, як дэкламую. Свае творы я паказваю настаўніку беларускай мовы — спадару Янку Карчэўскаму, які правярае ці няма памылак.

**УМ:** — Ці ў Тваім асяроддзі ёсць людзі, якія кажуць, што «Польшча толькі для палякаў»!

**НВ:** — Пэўна, што ёсць. Я гэта адчула, калі пайшла вучыцца ў белліцэй у Гайнаўцы. Гэта супала з першым маршам «выклятых жаўнераў». У Гайнаўцы людзі падзяліліся на палякаў, якія бачаць Польшчу для палякаў, і беларусаў, якія не саромеюцца таго, што яны беларусы. Былі такія сябры, што тады баяліся выйсці на вуліцы Гайнаўкі. У маім класе ёсць нават асобы, якія наракаюць на беларускую мову.

**УМ:** — Ці Ты магла б закахацца ў хлопца з такімі нацыяналістычнымі поглядамі?

**НВ:** — Думаю, што гэта было б цяжка, але калі б ён быў такі сапраўды файны, прыгожы, то можа ўдалося б мне яго змяніць, выбіць з галавы погляды. Думаю, што хацела б мець хлопца беларуса.

**УМ:** — Як адчувала Ты сябе пасля перамогі ў конкурсе «Дэбют»?

**НВ:** — Ой, вельмі файна! Я была такая шчаслівая, калі ў трэцім класе гімназіі заняла першае месца. Гэта было нешта іншае, бо ацанілі мяне не настаўнікі, а вядомыя літаратары. Для мяне гэта быў такі шок і тарпеда да пераду. Потым, калі я была ў ліцэі, заняла трэцяе месца ў дарослай катэгорыі.

**УМ:** — Ці Ты ў будучыні хочаш быць журналісткай?

**НВ:** — Пэўна, што ёсць у мяне такая думка. Гэта цудоўная праца з людзьмі. Журналістыка дае магчымасці цікава пражыць жыццё. Для мяне праца ў газеце, на радыё ці тэлебачанні была б здзяйсненнем мараў. Пісаць люблю, гаварыць таксама, а ездзіць усюды з мікрафонам гэта таксама не была б праблема. Быць журналістам — мая мара!

**УМ:** — Ад імя сяброў Сустрэч «Зоркі» жадаем, каб Твая мара збылася!

**Гутарыла Уля Марчук,**
газета «Васілёк»
(*выпускніца Нараўчанскай гімназіі, ад верасня вучаніца Гайнаўскага белліцэя*)

**Наталля ВАСЬКО**

* * *

**Мне не сорамна**
**за тое, хто я....**
**Мне не сорамна**
**за тое, адкуль я...**
**Мне не сорамна**
**за ўсё...**

**Я іншая, не такая як усе.**
**Маю свой розум і сваю спадчыну.**
**Не слухаю другіх, што**
**хочуць мяне адурманіць.**
**Не крычу за ўсімі тое:**
**«Польшча для палякаў!»**
**Не бачу герояў у гэтых,**
**што мардавалі нявінных.**

**І ведаеце, добра мне з гэтым.**
**Добра, што маю сваю думку.**
**Не абыходзяць мяне грозьбы,**
**правакаванне і вашы тэксты.**
**Буду жыць, як схачу я.**
**Буду верыць у тое, у што схачу я.**
**Маю ўжо сваю мэту ў жыцці**
**і ніхто мяне не затрымае!**

**Буду ганарыцца**
**за тое, хто я!**
**Буду ганарыцца**
**за тое, адкуль я!**
**Буду ганарыцца**
**за тое ўсё.**

(гэты верш перамог у конкурсе «Пазнай Беларусь»)



# Як дагаварыцца ў Азіі?

18 чэрвеня 2017 года ў нас гасцявала Кацярына Ляўдацкая, журналістка з Гародні. Яна расказала нам пра сваё падарожжа ў цэнтральную Азію летам 2015 года. Мы даведаліся, што там было 50 градусаў цяпла. У Азіі яна была з сябрам. Яны бачылі найвышэй пастаўлены помнік Леніну, які стаяў у мясцовасці распаложанай на вышыні больш за чатыры тысячы метраў над узроўнем мора. Там сустрэлі жанчыну з Лондана, якая прыехала з Вялікабрытаніі на скутары. На канец былі пытанні. Мяне зацікавіла, як там гэтая жанчына дагаварылася з людзьмі? Даведаўся, што ўсе старэйшыя людзі ведаюць рускую мову, а многія маладыя ведаюць англійскую.

Мне гэтая сустрэча вельмі падабалася.

**Мікалай ЗДРАЙКОЎСКІ**,
газета «Васілёк» (*ад верасня вучань шостага класа ПШ № 4 у Беластоку*)

# Польска-беларуская крыжаванка № 28-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24-17:**
Блін, Ян, воск, яр, шанс, рыс, жывот, жыта, сон, ла, но, небакрай. Яр, барытон, іва, жыта, сшытак, кава, но, на, настрой.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Магдалена Якубюк, Вікторыя Гаць** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Аліўка Порац, Оля Кардаш** з Нарвы, **Кацярына Сурэль, Дам'ян Аўярчук** з Арэшкава. Віншуем!

Dynastia
As
Zabawa
Kino
Karp
Rdza
Sto
Jar
Szlaczek
Towar
Widok
Ranek
Dakar
Oczep
Grad
Ala
Giełda
Adpoczynek
Góra
Osa
Piekarz

Міхась АНДРАСЮК



# Лавачка (ч.2)

З неба даходзіць гул самалёта — далёкі, сцішаны, быццам сачыўся праз тоўстую сцяну. Праводзім вачыма кропку, што міргаючы жоўтым вокам, прарываецца між зорамі з усходу на захад.

— Ніколі не ляцеў на самалёце. Не прыйшлося. Пасажырскі, а? Не ваенны? — упэўніваецца дзед.

— Канешне, пасажырскі, — пацвярджаю. — І мне пакуль не было аказіі. А ў сне лётаю часта. У пакоі над ложкам, над сталом і шафай, а іншым разам над вуліцай лётаю. Не надта высока, але ж лячу. І заўсёды лётаю адзін, а людзі стаяць, задзіраюць галовы, зацікаўлена глядзяць. Запрашаю іх, заахвочваю, давайце, лётаць — зусім простая справа. Маю ўражанне, што ім вельмі хочацца адарвацца ад зямлі, але трымаюцца за яе, як трымаліся.

— Сны, яны прывучаюць нас да вечнасці, але вечнасць адна на ўсіх, а шлях да яе, як і сон — у кожнага свой. Адзін ляціць туды птушкай, другі паўзе вужакай, — кажа дзед.

Дзедавы словы, тое, як ён падбірае іх, як вымаўляе і звязвае ў сказы, здзіўляюць мяне куды больш, чым ягоная прысутнасць на маёй лавачцы. Усяму, што тут адбываецца, ці ўжо адбылося, пачаўшы з тае хвіліны, калі за штыкетнікам мільгануў чорны пінжак, калі зашоргалі на асфальце боты, усяму гэтаму магу даць веру. У аповедах бабы Веры было так шмат дзеда Дзмітрыя, што я перастаў прыкладваць да ягонай адсутнасці асаблівую ўвагу. Пачаў яе лічыць як часовую, на восі гадоў пазначанаю незварушнай кропкай „ад” і рухомай, што натуральна, як стрэлкі гадзінніка можа заходзіць у чарговыя дні кропкай „да”, і неяк звычайна чакаўся той момант, калі бразгане клямка, адчыняцца дзверы і дзед Дзмітрый пераступіць парог. Насычаны пахам сенажаці, або прыцярушаны вусікамі жніўных каласоў, прысядзе за стол і за вячэрай усё распавядзе сам — дзе быў і чым займаўся. Пазней, калі адышла баба Вера, кропка „да” адсунулася далёка над лес і завісла там яшчэ адной зоркай. Гляджу на яе і не здзіўляе мяне прысутнасць дзеда Дзмітрыя на лавачцы. Нават гісторыя пра вечную варту, якую нехта трымае над намі, гучыць цалкам верагодна, бо чалавеку хочацца не быць пакінутым на волю выпадку, што зморany нудой можа раптоўна абвясціць канец ігры.

Словы — неад'емная частка чалавека, як валасы і ногці, вырастаюць з яго, выспяваюць, набіраюцца колерамі, аплятаюць душу павуцінкай маршчын. І калі ў сорак сем спыняюцца сівець валасы, калі абрываецца ніць, што тчэ зморшчыны вакол вачэй, словы таксама спыняюцца, кожнае застаецца на сваім месцы. І не перавязаць іх нанава ў сказ — прыгажэй за тыя, што звязаліся раней, як не ўзняцца ў прастору птушынаму чучалу, не ўзляцець вышэй за той цвік, што прышпільвае да сцяны апошні, бясконцы палёт.

Словы дзеда Дзмітрыя мяне хвалююць, словы дзеда Дзмітрыя заварожваюць. Няўжо слова можа існаваць па-за чалавекам, вызваліцца ад яго, жыць сваім жыццём, вандраваць праз час і прастор, і браць з іх новае, і новае? А мо яшчэ большай сілай валодае слова? Можа, калі з'явіцца патрэба заступіцца за свайго ранейшага гаспадара, падтрымаць яго, яно вярнецца назад і падстаўляе плячо — мацнейшае моцамі, падабранымі на шляхах недаступных чалавеку?

Маўчу хвіліну і другую, але цікавасць не адступае, цісне, як няўмела падабраныя боты, у рэшце рэшт даю ёй волю:

— Дзіўная з табой гутарка, дзед. Адкуль ты бярэш такія словы? Плугам жа з нашага прыпушчанскага пяску іх не выараў і, калі добра ведаю, у школы таксама ты не хадзіў, не сядзеў у кніжках. От, як і ўсе побач — як казала баба Вера — вывучыў распісацца і крыху чытаць, каб з большага разбірацца, чаго ў сваіх пісульках дамагаюцца дзяржаўныя чыноўнікі.

— Бачыш, як яно ў жыцці пляцецца, — ну, няхай, вазьмі ты ў двукоссе тое слова, жыццё — не сядзеў у кніжках, а цяпер сяджу. Да пісьменнікаў і паэтаў мяне адправілі. Яны там вяртаюць да ранейшага выгляду кнігі, спаленыя варварамі за ўсю гісторыю. Усе кнігі спаленыя на працягу ўсяе гісторыі, — паўтарае. — Яны перапісваюць, а я збіраю іх, заношу ў бібліятэку, растыкаю па паліцах. Некалі займаліся гэтай справай больш адукаваныя памочнікі, але не спрацавала іх каманда. Пашлюць чалавека з кніжкай, якую не лістаў ніхто тысячу гадоў, а то і яшчэ даўжэй, а ён прытаіцца ў куточку, разгарне яе і пакуль уздоўж ды ўпоперак не перачытае, не раскладзе на костачках, не перасмокча, з роўнымі сабе не абмяркуе, рука на паліцу не пасунецца. А кнігі на пісьмовых сталах накапляюцца, на розных яны мовах, старажытныя іерогліфы пераклікаюцца з лацінкай, лацінка з кірыліцай, вырастаюць, як вавілонскія вежы. Часу, канешне, хоць адбаўляй, але ж нават у вечнасці ён не стаіць на адным месцы. У рэшце рэшт адзін чалавек, мой амаль равеснік — мне сорак сем, яму на два больш, дарэчы, той, які некалі сказаў, што рукапісы не гараць, таму напэўна і прызначылі яго кіраўніком спаленай бібліятэкі — кажа ён: Дзмітрыя, давайце возьмем у памочнікі. Пушчанскі мужык, працавіты, непісьменны, не стане час губляць на лішнія чытанкі. І ўзялі. Але ж — як кожнаму чалавеку, так і мне — цікава, што нясеш у руках. Нікому нічога не кажучы, я падцягнуўся ў расшыфроўванні літар і пачытваю крадком, калі ніхто не глядзіць. Але з абавязкамі спраўляюся, ды яшчэ як! Сам адзін спраўляюся з тым, чым раней займалася цэлая каманда. А паэтам я не зайздрошчу. Абярнуць у літары ўсе спаленыя словы, няпростая рэч. Куды прасцей падняць з попелу спалены дом.

— І гэта магчыма? Якія рукі ў змозе вярнуць на паперу спаленае слова? — здзіўляюся.

— Магчыма. Гэта ж не рука піша кнігу, а думка. А паліць яе — чалавечая рука. І цяпер перапісваюцца гэтыя кнігі не на паперу. Цяпер яны перапісваюцца на тыя акрайкі лёнавага неба, што выходзяць з-пад пальцаў найстарэйшых ткачых. Такое неба не гарыць.

Дзед узіраецца перад сябе, на другі бок вуліцы, на дахі стадолаў і хлявоў, што шыферамі і чарапіцамі выходзяць да святла поўні.

— Бачу, Ёнашаў Косцік адбудаваў стадолу. Памятаю той пажар. Іван Антанюк трымаў тады варту. Вы ўсёй вёскай спалі, а ён давай бегма да дачкі. Нам так прыказана — калі б трывога, найперш бяжы да сваіх, бо ў свой дом сцежка найпрасцейшая, не спатыкнешся. Забег і барабаніць у акно: «Гандзя, уставай, падымай народ! На Косціка налятаюць чырвоныя коні!». Так менавіта сказаў, чырвоныя коні налятаюць, бо нам забаронена перасцерагаць вас ад злога адкрытым тэкстам. Чаму так, я не ведаю. Можа на тое, каб пакінуць вам выбар — верыць, ці не верыць у нашы словы.

Дзед стаўляе твар да месяца, а месяц, як вопытны грымёр, кладзе на дзедавых шчоках васковыя пудры, аздабляе валасы пылінкамі сцёртага ў парашок спелага аўса. Аздабляе багата, не шкадуючы, аж залаты лішак асыпаецца на пальцы рук, сплеценыя ў кошычак, адвернуты брухам да начнога неба. Пальцы, што лістаюць спапялёныя словы, падумалася мне, калі б ізноў іх пакласці на халодных, восеньскіх ручках плуга, ці ўтрымалі б яны плуг, правялі б баразну наперад сябе, услед за лятучай стралой?

Зацісні пальцы на дзедавай далоні і ўтуліся тварам у рукаў ягонага пінжака, дыхае шэпатам далёкі, яшчэ нябачны досвітак. У гэтых далонях толькі холад, а чорны пінжак аддае вільгаццю счарнелага восеньскага лісця, затаптанага ў зямлю босымі нагамі лістападаўскіх дажджоў — ноч стаіць побач і яе голас бярэ верх над шэпатам досвітку.

— Думаеш, не ўтрымаць мне плуг у далонях? Пальцы ў мяне ўсё яшчэ спраўныя, можа і спраўнейшыя, чым раней. Калі нясеш у далонях спаленую кнігу, калі яе стаўляеш на паліцу, трэба быць вельмі ўважным. Ні адна літара не можа ўпасці назад, на зямлю, ні адна кропка, ні коска. Трэба моцныя пальцы. І спрытныя, — усміхаецца дзед і падымае кошычак вышэй галавы, і яшчэ вышэй, і яшчэ, пальцы расплятаюцца, вычэсваюць таўсташчокі месяц з валасоў начнога неба, і заплятаюцца ў жывую павуціну. — Бачыш, які ён харошы?

Некалі баба Вера паказала мне месяц. Я, канешне, бачыў яго і раней, але спачатку глядзеў на месяц як на ёлачны шарык, крыху пазней ініі святла і ценю пачаў складваць у абрыс разгорнутага месячным ветрам адзення пана Твардоўскага, а яшчэ пазней увесь свет загаманіў пра касманаўтаў — паглядзіце людзі, яны ўжо ірванулі з месца, ужо шыбуюць у прасторы, пераселі ўжо мяжу ўсім межам і вось-вось сядуць на жоўтай талерцы.

Прытаўшыся паміж форткай і лавачкай, я ўзіраўся ў гладкі месячны твар, шукаючы там першую маршчыну, зробленую абцасамі чалавечых ботаў. Ліпеньская поўня перапраўлялася якраз на схадок, святла было дастаткова, але на месячным панадворку не адбывалася нічога асаблівага. У вечаровай цішыні надзвычай пранізліва заскрыпела фортка і з-за штыкетніка высунулася галава бабулі Веры. Фортка адчынілася насцеж, дадатковая жменя месячнага святла ўпала люстэркам на траву. Бабуля пераступіла люстэрка, паставіла крок, і другі, і прысела на лавачку.

— Хадзі бліжэй, — сказала, а калі я ўтуліўся ў яе цёплае плячо, паказала на месяц:

— Бачыш той малюнак на месяцы? Цёмныя плямы на залатым фоне, бачыш?

— Ага, бачу. Гэта касманаўты?

— Не, — запярэчыла бабуля. — Тысячы гадоў стаіць гэты малюнак, а на ім два браты. Пачалося ўсё, калі адзін брат зрабіў другому брату страшную рэч. Першы раз такое здарылася. Брат забіў брата, надзеў яго на вілы, падняў над галавой, замахнуўся, каб шпурануць нежывога ў цёмны лес, схаваць ад людскіх вачэй. Але не паспеў. Пан Бог, які ўсё бачыць, не прапусціў вокам і гэтае злачынства. Схапіў камень — першы, які падышоў пад руку — і з усяе сілы шпурнуў у забойцу. Пацэліў добра, а камень не абы-які быў, як пазней аказалася, самы вялікі валун на зямлі. І панесліся на камені браты — далёка, далёка. Там камень перамяніўся ў месяц, а браты пераўвасобіліся ў камень. Век да веку трэба стаяць ім, на перасцярогу ўсім людзям. І не варта чалавеку ўмешвацца ў парадак, што ідзе сваім шляхам.



# Свята ў Бацютах

■ Перад набажэнствам у Бацютах

У 1208 годзе бельгійская манашка Юльяна мела відзеж, у ходзе якой паказаўся ёй Ісус і рэкамендаваў хадайнічаць за ўстанаўленне свята ў гонар Цела Хрыстова. Ёй сніўся Месяц з цёмнай плямай, якую яна лічыла знакам недастатку такога свята. У выніку яе захадаў свята было ўстаноўлена ў дыяцэзіі Льеж у 1246 годзе, а ў 1264 годзе папа Урбан IV адмысловай булай устанавіў гэтае свята для ўсяго Касцёла. Паколькі була не была апублікавана да папскай смерці, паўсюднае гэтае свята ўстанавіла пазнейшая була ўжо ў 1317 годзе. Урачыстасць *Najświętszego Ciała i Krwi Chrystusa — Boże Ciało*, была вызначана на шасцідзясяты дзень пасля Вялікадня...

Відзежныя вытокі свята Божага Цела апісаны ў літаратуры, затое невядома мне, ці дзе апісаны вытокі святкавання ў той жа час праваслаўнага свята вёскі Бацюты, што ў пятнаццаці кіламетрах на захад ад Беластока; магчыма, што некаму з вяскоўцаў таксама нейкі відзеж з цёмнай плямай прысніўся. І тут, у Бацютах, прынята гэты вольны ад працы шасцідзясяты пасля каталіцкага Вялікадня дзень таксама адзначыць, але ўжо з іншай асновай і ў іншай абраднасці.

Падаўся я ў Бацюты байкам, цераз Невадніцу-Касцельную. Пад тамашні касцёл на ўрачыстую працэсію пачыналі збірацца самыя першыя вернікі. А вось каля чыгуначнага пераезда ў Трыпуцях давялося мне быць сведкам даволі небяспечнай сітуацыі. Менавіта перад тым пераездам свяціліся чырвоныя святлафоры, аднак шлагбаўм не быў апушчаны. Дзве легкавушкі спыніліся перад святлафорамі, а вось трэцяя зухавата пад'ехала да пуцей. Шчаслівенька скоры поезд з напрамку Варшавы ехаў акурат няспешна, падаў гудок і спяшаючая легкавушка спынілася. А калі б той цягнік Інтэрсіці рваў у поўную моц...

На вясковае свята ў Бацютах сабралася каля шасцідзесяці чалавек. І былі гэта адносна маладыя людзі. Частка прыехала на машынах, але большасць прыйшла пяшком. У геркаўскі час, у 1970-я гады, жыхары Бацютаў масава рванулі ў Беласток, але іх нашчадкі пачынаюць вяртацца ў сялібы продкаў, абнаўляць іх і абжываць. Яшчэ ў 1945 годзе ў Бацютах пражывала 375 праваслаўных, але неўзабаве 66 сем'яў з гэтай вёскі выехала ў СССР. Выехалі не ўсе, насуперак Сталінаваму жаданню і насуперак жарснай падтрымкі таго жадання „выклятымі жаўнерамі"...

Свята ладзіцца каля мураванай каплічкі, што на задворках вёскі. Польская Вікіпедыя падае: „**W Baciutach znajduje się kapliczka z końca XVIII w. pod wezwaniem św. Barbary — początkowo greckokatolicka, obecnie prawosławna (należąca do parafii w Topilcu)**". А расійскі інтэрнэтны рэсурс пра тое ж самае: „При деревне Батюты имеется каменная часовня в каменной ограде, сооруженная местными поселянами в 1863 году, в память освобождения их от крепостной зависимости помещику, а также и в память о бывшей до 1600 годов в Батютах церкви". Даты з абедзвюх крыніц значна разыходзяцца — каторая ж з іх тады сапраўдная?

На мой аматарскі розум больш верагоднай падаецца апошняя версія. Бо ж уніяцкія храмы ў уніяцкі час узводзіліся ў нас галоўным чынам з драўніны. Мураваныя храмы сталі тут будаваць неўзабаве пасля таго, калі вакол сталі будаваць мураваныя крэпасці. І так мне падаецца, што ў канцы XVIII стагоддзя, або і яшчэ раней, маглі ў Бацютах паставіць капліцу драўляную, а ў царскі час замяніць яе мураванай, так, як неўзабаве, пасля Студзеньскага паўстання, сталася з многімі тутэйшымі цэрквамі.

У заканчэнне набажэнства адбыўся сімвалічны абыход палёў, які прайшоў шэсцем вакол капліцы. Шэсце спынялася за кожным бокам агароджы, а святар, настаяцель мясцовага Тапілецкага прыхода а. Яраслаў Юзвік, свянціў усе стораны свету. Настаяцель паінфармаваў, што неўзабаве капліца будзе грунтоўна абноўлена і на ёй будзе ўстаноўлены колішні крыж.

Побач капліцы стаіць памятны крыж са згадкай пра пажар вёскі ў 1912 годзе; крыж пастаўлены сям'ёй Утруткаў. Была гэта багатая сям'я, мела свой млын, які стаяў насупраць каплічкі. Дарэчы, два члены гэтай сям'і былі вывезены ў 1940 годзе ў савецкія шахты як „социально опасный элемент". Сям'я Пяхоўскіх таксама ўнесла свой пай у лік ахвяр сталінскіх рэпрэсій. А вось Валянціна Вачынская, ураджэнка Бацют, была ў 1972 годзе ўзнагароджана званнем Героя сацыялістычнай працы за калгасную руплівасць. Пра мастака Мікалая Несцярэўскага пісаў нядаўна на нашых старонках Сяргей Чыгрын...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



■ Касцёл у Невадніцы



# Перад эканамічным кангрэсам

**22 чэрвеня ў Падляшскай оперы і філармоніі адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная сёлетняму IV Усходняму гаспадарчаму кангрэсу, які адбудзецца 27-28 верасня. Мерапрыемства коратка прадставілі прадстаўнікі арганізатараў.**

Войцех Кусьпік — старшыня Польскага таварыства падтрымкі прадпрымальніцтва, назваў кангрэс найважнейшай падзеяй, кранаючай гаспадарку Усходняй Польшчы і гаспадарчыя ўзаемаадносіны з нашымі найбліжэйшымі суседзямі на Усходзе. Вядучы лозунг „Ідэя Усходу" гэта размова пра ідэю гаспадарчага развіцця Усходняй Польшчы ды адносіны з усходнімі суседзямі — Беларуссю, Літвой, Украінай, з усходам Еўропы. Паказчыкі мінулагодняга кангрэсу аптымістычныя і яны мацуюць нас у далейшым прасоўванні гэтага мерапрыемства ў Беластоку. Летась прыняло ў ім удзел звыш 1300 гаспадарнікаў і самаўрадаўцаў з Польшчы і замежжа, вельмі ўдалы быў праект „Маладыя лідары" з удзелам звыш пяцісота маладых людзей. Зацікаўленне медыяў абнадзейвае добрай прамоцыяй таго, што тут, на ўсходзе Польшчы, на Падляшшы адбываецца. Маем добры клімат для разважанняў, што і як хочам змяняць, бо ладзім добрае супрацоўніцтва з прадпрымальнікамі і ўладамі ваяводства.

Маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі: — Супрацоўніцтва з Усходам важнае для нашага ваяводства, як і іншых усходніх ваяводстваў, бо праблемы у нас падобныя. Важнае нам і супрацоўніцтва з усходнімі суседзямі, як і з Захадам, бо наша эканоміка развіваецца абапіраючыся на экспарт у краіны Еўрасаюза.

Яраслаў Варабей, дырэктар аддзела сертыфікацыі і еўрафондаў Падляшскай ваяводскай управы: — Тэматыка кангрэсу ахоплівае некалькі дзясяткаў праблем, якія павінны быць цікавымі так прадпрымальнікам, як і мясцовым самакіраванням. Гэта таксама месца, дзе сустракаюцца людзі, якія ўздзейнічаюць на законы.

Тамаш Казлоўскі, старшыня Падляшскага гаспадарчага форуму: — Кангрэс дае нагоду паказаць нашы магчымасці, нашы адметныя ў маштабе краіны козыры. Кангрэс дае магчымасць выпрацаваць падказкі, што можна змяніць для будучыні.

Анджэй Парафінюк, старшыня Падляшскага фонду рэгіянальнага развіцця: — Штодзённа з нашага ваяводства выязджае назаўсёды чацвёра маладых людзей, таму хочам стварыць такія ўмовы, каб гэтую тэндэнцыю спыніць. А нагодай для такой ініцыятывы з'яўляецца Усходні гаспадарчы кангрэс. Калі ўключым наша ўяўленне, то ўбачым нашу эканоміку за дзвадцаць гадоў і ў ёй тых людзей, якія зараз вучацца ў сярэдніх школах. І менавіта яны будуць вырашаць пра нашу будучыню, таму трэба зрабіць усё магчымае, каб іх тут затрымаць. Летась спатканне з моладдзю праводзілі пад лозунгам „Бізнес з захапленнем", паказваючы тых маладых людзей, якія, дзякуючы свайму запалу, сумелі развіць паспяховы бізнес. Сёлета хочам паказаць такіх маладых людзей, якія ўмелі пераадолець розныя бар'еры — ці то бар'еры вонкавага ці ўнутранага атачэння, ці свае ўласныя слабасці дзеля дасягнення поспеху.

Войцех Кусьпік выказаў спадзяванне, што сёлетні кангрэс прыцягне за дзве тысячы ўдзельнікаў. Штогадова адбываюцца суправаджальныя мерапрыемствы, прэзентуючыя тых гаспадарчых пачынальнікаў, якія дабіліся відных поспехаў.

У праграме надыходзячага кангрэса такія, м.інш., тэмы, як стартапы ва Усходняй Польшчы, прыхаваны патэнцыял меншых гарадоў, роля гарадоў-пабрацімаў, уплыў трансгранічнага супрацоўніцтва на развіццё Усходняй Польшчы, працаўнік з Усходу, жанчыны ў макрарэгіянальнай гаспадарцы, турызм, спорт, асяроддзе, тэхналогіі...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Засталіся адно ўспаміны (10)

Арэшкава на зломе пяцідзясятых-шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя лічылася гмінным цэнтрам. Была тут Грамадская рада нарадова, пошта, сямігодка, Грамадская публічная бібліятэка, дзве ГСаўскія крамы ў мураваным будынку (з прадуктовай і прамысловай секцыямі) ды вясковая святліца на 120 месцаў з прызначэннем арганізаваць кінасеансы для публікі. Так вялікіх культурных цэнтраў на тэрыторыі, якую абслугоўвала наша кінаперасоўка, больш не было. І гледачоў на кінасеансы шмат тут прыходзіла. У святліцы змяшчалася публічная бібліятэка. Бібліятэкаркай у ёй працавала Марыся Чурак. Пошту ўзначальваў Пятро Піткевіч. Ягона сястрыца, Вера, працавала ў прамысловай секцыі вясковай крамы, а ў прадуктовай секцыі працавала Люба Шакала. Яе муж Грыша меў сталярскую майстэрню і выконваў паслугі для жыхароў навакольных вёсак. Рабіў ён шыкарную мэблю. З Пятром Піткевічам на пошце працаваў пісьманосец Юзік Мішчук, актыўны дзеяч і важак гуртка Саюза вясковай моладзі.

Пачатковая школа змяшчалася ў драўляным будынку. У канцы пяцідзясятых гадоў у рамках лозунга «Тысячу школ на тысячагоддзе» пачалася будова новай мураванай школы. З таго, што мне вядома, першыя цаглінкі пад яе пабудову паклаў настаўнік Янка Сычэўскі. У выніку вырас прыгожы будынак, які па сённяшні дзень красуецца ў Арэшкаве. Знайшлі тут працу сужонства Малішы. Спадар Мікалай Маліш з'яўляўся шматгадовым кіраўніком школы, а ягоная жонка вучыла дзетак I-IV класаў. Сужонства Малішы кватаравалі ў школе. Апрача іх працавала Люба Шахалевіч, Тамара Яўдасюк з Дабрывады, Ядвіга Данілецкая. Пасля перамяшчэння школы ў новы будынак у старым закватараваўся Грамадская рада нарадова. З працаўнікоў ГРН запамяталіся мне старшыня Назарук, сакратар Янка Авярчук, працаўнік адміністрацыі Грыша Парфянюк. З гэтымі я меў нагоду раней пазнаёміцца, калі працаваў у Гарадской радзе ў Гайнаўцы ў 1960-1962 гадах.


Дзеці з Арэшкава (фота з архіва «Нівы»)

Арэшкаўскія настаўнікі актыўна ўключыліся ў вір культурна-асветнага жыцця вёскі. Люба Шахалевіч, напрыклад, служыла дапамогай у арганізаванні самадзейнага руху. Самадзейнікі падрыхтавалі беларускую п'есу «Прымакі», затым «Паўлінку» і «Мікітаў лапаць». Паспяхова прэзентаваліся перад аднавяскоўцамі, выязджалі ў суседнюю Дабрываду і Плянту. Кінасеансы мы ладзілі ў святліцы. Тут жа і дэманстравалі ранішнікі для школьнікаў. Гэтыя амаль заўжды арганізаваліся пры канцы ўрокаў, каб не рабіць закалоту ў занятках. Хлопцы старэйшых класаў памагалі нам у падрыхтоўцы глядзельнай залы. Завешвалі пледамі вокны, пераносілі з машыны ў святліцу кінатэхнічную апаратуру і г.п. Мы такім гарантавалі бясплатны ўступ на фільм. У Арэшкаве, як зрэшты і ў іншых сёлах, школьная моладзь намагалася ціхачом прабрацца на вячэрнія недазволеныя дзеткам сеансы для дарослых. Найчасцей раней, у час завешвання пледамі акон, пакідалі іх незамкнёнымі, каб пасля шмыгануць у залу. Але наш шафёр ведаў гэтую звычку і ў час перапынку для закладання чарговай кінастужкі, знаходзіў хітруноў і пры публіцы выводзіў іх з залы. Жыхары Арэшкава захаваліся ў маёй памяці як адна дружная сям'я, аддадзеная грамадскай справе. Але аб гэтым ужо ў чарговым допісе.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІАРУК**

---

КАРЫСНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ



АРТУР КЛІНАЎ: "АРТ-ВЁСКА – ГЭТА ПРАЕКТ НА МЯЖЫ МАСТАЦТВА І РЭАЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ"

"Арт-вёска" – для Беларусі гэта новы фармат для праектаў у галіне культуры. Чатыры гады таму мастак Артур Клінаў пачаў стварэнне крэатыўнага кластара ў вёсцы Капатрувы, якая знаходзіцца ў 200 км ад Мінску

# www.culturepartnership.eu

Культурная разнастайнасць у межах адной дзяржавы лічыцца бясплатным, але вельмі дарагім набыткам грамадства. І гэта сапраўды так, але каб гэтая разнастайнасць захоўвалася, варта падтрымліваць культуру кожнай этнічнай групы. Пасля Другой сусветнай вайны гэта вельмі добра зразумелі прагрэсіўныя колы еўрапейскай супольнасці, якія абралі сваёй мэтай стварэнне мультыкультурнага грамадства.

Праўда, за некалькі апошніх гадоў у сувязі з наплывам уцекачоў у Еўропу некаторыя шавіністычныя галовы ў Расіі і некаторых краінах пачалі ўшчуваць еўрапейцаў. Маўляў, мультыкультуралізм у такіх варунках вядзе да знішчэння тытульных нацый і іх культур. Насамрэч, гэта нішто іншае, як праява парасткаў нацызму, які і грунтуецца на адмове людзям у межах адной краіны належаць да розных культур. На шчасце, Еўрасаюз з большага не паддаўся на гэтыя „разумныя" довады, і па-ранейшаму не толькі прымае людзей, якіх пераследуюць на радзіме, але і распаўсюджвае талерантнае стаўленне праз падтрымку разнастайных культурніцкіх праектаў. Адной з такіх праграм падтрымкі з'яўляецца „Культура і крэатыўнасць", пра якую на шматлікіх мовах распавядае яе сайт у інтэрнэце.

Калі цікаўны карыстальнік набярэ на сваім камп'ютары адрас **www.culturepartnership.eu** і клікне на гузік, што пазначае беларускую мову, то перад яго вачыма адкрыецца выяўленне, якое нечым нагадвае газетную старонку з абвесткамі. Даволі сціплы надпіс „Культура і крэатыўнасць" і маленькія, ледзьве бачныя словы „Праграма ЕС і Усходняга партнёрства" ў левым верхнім вугле не прыцягваюць увагі, бо ніяк не кідаюцца ў вочы. Не зусім зразумелым падаецца і абазначэнне „Карысныя матэрыялы" — каму карысныя і дзеля чаго? Таму, каб дакладна даведацца аб чым гаворыцца на сайце, варта ад пачатку не блукаць па першай старонцы, а клікнуць на выйсце адной з рубрык — „Аб праграме" ўверсе цэлага выяўлення. „Праграма ЕС і Усходняга партнёрства «Культура і крэатыўнасць» прызвана забяспечыць падтрымку культурных і крэатыўных індустрый, а таксама спрыяць павелічэнню іх укладу ва ўстойлівае гуманітарнае і сацыяльна-эканамічнае развіццё ў Азербайджане, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне", — распавядаецца там.

Кіраўнікі праграмы ўказваюць, што яна прадугледжвае наступныя віды падтрымкі культурніцкіх ініцыятыў — правядзенне даследаванняўі развіццёфакталагічнаабгрунтаванай палітыкі, падтрымка рэформ у сферы культурнай палітыкі, нарошчванне патэнцыялу культурнага і крэатыўнага сектараў, спрыянне супрацоўніцтву паміж грамадскімі і прыватнымі арганізацыямі, урадамі і грамадзянскім грамадствам, падаванне інфармацыі і магчымасцей для міжнароднага супрацоўніцтва, інфармаванне аб ролі і важнасці культуры і абмен ведамі і перадавой практыкай.

У рубрыцы „Культура мае сэнс" карыстальнікі інтэрнэту заклікаюцца стаць „амбасадарамі культуры" і распаўсюджваць інфармацыю пра тое, чаму „культура мае значэнне". Гэта значыць — распавядаць, што культура і мастацтва, у прыватнасці, робяць істотны ўклад у дабрабыт як асобных людзей, так і грамадства ў цэлым, спрыяюць згуртаванню супольнасцей, паляпшаюць здароўе і з'яўляюцца складнікам шчасця.

Пасля прачытання гэтага становяцца зразумелымі „Карысныя матэрыялы", пра якія згадвалася вышэй. Гэта артыкулы, якія даюць уяўленне, у прыватнасці, пра культурніцкія асаблівасці Беларусі.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

---

Дата з Календара

Мастак з беларускай Літвы



## 90 гадоў з дня нараджэння
# Кастуся Харашэвіча

Беларускі мастак Кастусь Харашэвіч нарадзіўся 6 ліпеня 1927 г. у вёсцы Літва Маладзечанскага раёна. Мясцовасць гэтая зусім паблізу вёскі Яхімоўшчына, дзе жыў Янка Купала. Вучыўся Харашэвіч у час Другой сусветнай вайны ў Маладзечанскай гандлёвай школе. Адным з яго настаўнікам быў Барыс Кіт. Кастусь Харашэвіч браў удзел у дзейнасці Саюза беларускай моладзі.

Паводле ўспамінаў самога Харашэвіча, да мастацтва ён прыйшоў ужо сфармаваннай асобай. Першую сапраўдную карціну ён убачыў у 20 гадоў: яго гэта ўзрушыла. Тады пачаў капіяваць чужыя палотны. У 27 гадоў паступіў у мастацкае вучылішча. А да гэтага яго больш цікавіла літаратура, спрабаваў сябе ў паэзіі. У 1958 годзе Кастусь Харашэвіч скончыў Мінскае мастацкае вучылішча. Яго дыпломная праца — „Сялянскі бунт у дарэвалюцыйнай вёсцы". З 1969 г. — сябра Беларускага саюза мастакоў. Пазней уваходзіў у мастацкую суполку беларускіх мастакоў „Пагоня". Разам з Ядвігай Раздзялоўскай стаў заснавальнікам студыі выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Маладзечне.

Творчасць мастака-пейзажыста Кастуся Харашэвіча прадстаўлена больш чым 500 карцінамі, якія адлюстроўваюць знакавыя падзеі ў гісторыі Павілля і ўсёй Беларусі. З пачатку 2000-х гадоў мастак працаваў над стварэннем галерэі партрэтаў дзеячаў культуры і гісторыі, сваіх знакамітых землякоў. Сярод створаных прац — партрэты Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Вацлава Ластоўскага, Барыса Кіта, Паўла Валошына, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Браніслава Тарашкевіча, Пятра Мятлы і іншых. Творы мастака захоўваюцца ў Беларускай бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лондане, Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Мінскім абласным краязнаўчым музеі Маладзечна, Скандынаўскім цэнтры ў Мінску, а таксама ў прыватных зборах у Польшчы, Нямеччыне, ЗША, Канадзе, Ізраілі. Персанальныя выставы мастака прайшлі ў Саюзе мастакоў у Мінску (1977 год), Панявежысе (Літва, 1977), Рэспубліканскай мастацкай галерэі (Мінск, 2003), яшчэ адна ў беларускай сталіцы пад назвай „Крыніцы моцнага натхнення" (2010). У 2011 годзе ў філіяле Дзяржаўнага літаратурнага музея імя Янкі Купалы ў Яхімоўшчыне адкрылася персанальная галерэя твораў Кастуся Харашэвіча. Апрача жывапісных твораў мастак пакінуў пасля сябе кнігу ўспамінаў „Зведанае і перажытае", якая выйшла пры жыцці ў 2004 годзе. У 1999 годзе быў узнагароджаны медалём Беларускага саюза мастакоў „За заслугі ў выяўленчым мастацтве", а таксама двойчы — у 1999 і 2003 гадах адмысловай прэміяй Маладзечанскага гарадскога выканаўчага камітэта „Талент" у намінацыі мастак года. Сярод карцін мастака мастацтвазнаўцы вылучаюць наступныя палотны: „Сцяжынка майго дзяцінства", „Від на Мядзел", „Мястэчка", „Паўстанне нарачанскіх рыбакоў", „Вялікдзень", „Выступ Браніслава Тарашкевіча перад сялянамі Заходняй Беларусі", „Прадвесне", „Старое Заслаўе", „Стары двор. Магіла Цёткі", „Вільня. Зарэчча", „Раскіданае гняздо", „Браслаўскія азёры", „Дарога ў Гальшаны", „Маладзечна. Плошча Свабоды", „Далягляды маёй Бацькаўшчыны", „Руіны Навагрудка", „Барыс Кіт. Акадэмік астранаўтыкі", „Янка Купала ў Яхімоўшчыне", „Кастусь Каліноўскі. За нашу і вашу свабоду. Памяці паўстання на Беларусі 1863 г.".

Памёр Кастусь Харашэвіч 12 ліпеня 2013 года ў Маладзечне, пахаваны там на старых гарадскіх могілках.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



■ „Цаглінкі" са Старога Ляўкова



■ „Нараўчанкі" з Нараўкі

# Фэст св. Ануфрыя

У апошнюю чэрвеньскую нядзелю гэтага года ў Новым Масеве Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета прыгожыя беларускія і рускія песні луналі па-над вёскай. 25 чэрвеня стаяў прыгожы сонечны дзень. Надвор'е было ласкавае. Пасля поўдня пачаўся беларускі народны фэст пад лозунгам „І тут жывуць людзі". Прыехала сем мастацкіх калектываў з Беласточчыны і з Мінска (Рэспубліка Беларусь). Усе яны добра зарэкамендавалі сябе на прывезенай вялікай гміннай сцэне, усе падабаліся публіцы. А людзей сабралася многа. Варта адзначыць, што ў гэты дзень перад канцэртам здалі тут у карыстанне новапабудаваную прыгожую драўляную святліцу. Канцэрт вёў Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы ў ліцэі ў Гайнаўцы.

Прыемна было пасядзець на даволі трывалых моцных шырокіх драўляных лавачках, прывезеных разам са сцэнай (месцаў хапіла ўсім) і нацешыцца ў свабодны час мілагучнымі песнямі. У багатым рэпертуары найбольш было эстрадных песень. У Новым Масеве панавала добрая атмасфера.

На сцэне на прыродзе каля святліцы першым выступіў „Белы птах" з Мінска (Рэспубліка Беларусь). Спяваў ён знаёмыя нам беларускія песні, між іншым, „Ой ляцелі гусі з броду", „Ехаў Ясь на кані", „На вуліцы грымата", „У садзе гуляла", „На двары камары" і „Родны край Беларусь". Прыйшлося яму „бісаваць" і замежныя госці з задавальненнем праспявалі зараз папулярную развітальную песню „Чарка на пасашок".

За мінчанамі выступілі „Нараўчанкі" з Нараўкі і „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, на замену ім прыйшлі „Метро" і „Dawid Szymczuk Band" з Гайнаўкі, „Калінка" з Беластока ды „Арт-Пронар" з Нарвы. Пры іх песнях і музыцы маладыя пары танцавалі перад сцэнай. Усе ўдзельнікі культурна-забаўляльнай імпрэзы з вялікай ахвотай слухалі родных песень.

Сярод публікі былі Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны і Тамаш Ціханюк, дырэктар Гайнаўскага белмузея, якія раней адкрылі беларускі фэст. Войт быў рады, што Беларускі музей у супрацоўніцтве з гміннымі ўладамі ўжо восьмы год супольнымі намаганнямі ладзяць фэсты ў вёсках, у якіх ужо даўно не арганізаваліся музычныя мерапрыемствы.

На фэст у Новае Масева я ездзіў з радным Анатолем Раманчуком. Ён быў ад пачатку да канца музычнага мерапрыемства (ад 16 да 21 гадзіны) і быў у захапленні. Радавалі яго меладычныя звонкія беларускія і рускія песні (найбольш рускамоўных спяваў нарваўскі гурт „Арт-Пронар) ды добрая арганізацыя фэсту. У гэтым была немалая заслуга мясцовага гміннага раднага Паўла Каліноўскага (ён таксама старшыня адной з трох сталых камісій Гміннай рады, а менавіта камісіі па сацыяльных і грамадскіх справах, якая займаецца справамі культуры, асветы і спорту). Калі б не радны, сёлета не здалі б у карыстанне новай святліцы якраз у дзень св. Ануфрыя.

Варта дадаць, што наведвальнікі маглі купіць у музейнай краме за святліцай беларускую літаратуру, сувеніры і рукадзелле народных майстроў з Беласточчыны і Беларусі. Сувеніры прадавалі працаўнікі Гайнаўскага белмузея.

❖Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Купальская ноч у Нараўцы

**7 ліпеня** гэтага года ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбудзецца Ноч Купалы. У праграме — карагод фальклорных калектываў ад Гміннага асяродка культуры да амфітэатра над ракой, канцэрт калектываў „Світанак" і „Калінка" з Беластока, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Сэвен" з Бельска-Падляшскага, „Росніца" з Гродна і „Беларусы" з Мінска (Рэспубліка Беларусь), Тэатр агню, пусканне вянкоў на рэчцы Нараўцы (роўна апоўначы) і феерверкі. Пасля поўначы — танцавальная забава з вакальна-музычным калектывам „Аксель".

Пачатак мерапрыемства а гадзіне 20 у амфітэатры. **(яц)**

# Фэст у Старым Ляўкове

**12 ліпеня** гэтага года ў Стараляўкоўскай парафіі адзначаецца прыхадское свята Пятра і Паўла. Сёлета пасля поўдня ў гэты дзень у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбудзецца народны фэст з удзелам беларускіх мастацкіх калектываў. У праграме канцэрт „Зоркі" і „Oldstyle" з Беластока, „Цаглінак" са Старога Ляўкова і „Retro Beats" з Гайнаўкі. Вечарам да танцаў грацы і спяваць будзе калектыў „Аксель".

Пачатак забаўляльнага мерапрыемства а гадзіне 17-й. **(яц)**

# Адгаданка

**1.** бурлівае бульканне гарачай вадкасці, **2.** хімічны элемент н-р 29, **3.** ходзіць па Мінску з дубінкай, **4.** сусвет, **5.** абавязак, узятая пазыка, **6.** спальны касцюм з курткі і штаноў, **7.** марская млекакормячая жывёліна (*Phoca vitulina*), **8.** дажынкавая „квэтка" з кветкамі, **9.** гарадскі пасёлак у Ваўкавыскім павеце, **10.** дапытлівец, які высочвае асоб або падзеі па іх слядах.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | | | | 3 |
| | | | | | | | 4 | | | | | |
| | | | | | | | 5 | | | | | |
| | | | 6 | | 7 | | | | | | | |
| 8 | 9 | | | | | | | | 10 | | | |

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 25 нумара**

Бона, гном, гоман, гонка, доўг, мама, мана, нага, Рыга, шоўк, ярмо.

Рашэнне: **Многа камароў на многа ягад, многа мошак на многа грыбоў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 09.07 — 15.07

**(22.03. — 20.04.)** Не страчвай веры ва ўдачу сваіх планаў. Знойдзеш выхад з кожнай сітуацыі. Дома знойдзеш поле для кампрамісу. Вучыся і прабуй новых рэчаў. Добры час на інвестыцыі. Лішак энергіі выкарыстай, каб не пакутаваць ад бяссонніцы. 8-11.08 будзеш прымушаны змерыцца з многімі абмежаваннямі.

**(21.04. — 21.05.)** Дасі рады з усім і яшчэ паможаш іншым. Настрою не папсуюць малыя пстрычкі ад лёсу. Удалыя паездкі. Калі шукаеш працу, прымі сезонную (прапанаваную 13-15 ліпеня), але яшчэ рассылай СіВі. Не панікуй 9-11.07., не ёсць кепска. Быкі з трэцяй дэкады: памяняеш на грошы свой талент ці хобі; Быкі з другой дэкады: чакаюць вас выйгрышы, спадчына, вялікія кампенсацыі.

**(22.05. — 22.06.)** Кола фартуны пачне круціцца табе ў карысць. Нагоды кампанейскія і любоўныя самі будуць цябе шукаць. Прыемныя падарожжы, адкрыцці і цікавыя прыгоды. Кантракты з многімі нулямі! Кожны схоча з табою пазнаёміцца! Задбаеш аб свой выгляд. 13-15.07. не скажы лішніх слоў, якіх будзеш пасля шкадаваць.

**(23.06. — 23.07.)** Энергія, адвага і сіла характару. Здзяйсняй свае мары, неба табе спрыяе! Сіла і рашучасць дапамогуць негацыяваць табе найлепшыя дамовы, асабліва 8-12.07. Будзеш на першым плане, чутны і бачны. Але дбай аб сваё здароўе, а таксама бяспеку, асабліва над вадой.

**(24.07. — 23.08.)** Шмат радасці ад сустрэчы з сябрамі. Не абмінай ніякай імпрэзы! Будзеш выклікаць сімпатыю. Але займіся больш сваім здароўем, добра адпачывай. Не спячыся на сонцы! Калі не ўсе рашэнні былі ўдалыя, патрактуй гэта як навуку. 13-15.07. атрымаеш яшчэ адзін шанц, не змарнуй яго. З 13.07. (да 17.07.) могуць цябе абмінуць і не даць таго, што табе належыцца.

**(24.08. — 23.09.)** Хопіць энергіі для рэалізацыі рэвалюцыйных планаў. Аж шкада цяпер адпачываць, таму дзейнічай. Маеш у сабе моц для здзяйснення найбольш амбітных задум. Горш з рэалізацыяй адпачынкавых планаў, аж да 25.07. Не трап у выпадковыя абдымкі, асабліва 8-12.07., усё выявіцца! Карысны час пайсці „на сваё" (аж да 20.07.), на аперацыі (хірургія, дантыст). 8-11.07. могуць турбаваць цябе сумненні наконт некаторых тваіх дзеянняў, а 13-15.07. пільнуйся, каб не вырашыць нятрапна.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш змяняць свет вакол сябе на лепшы; пачні ад сваёй хаты. Прыручыш сваіх праціўнікаў. Пераканаеш усіх сваёй інтэлігентнасцю, досціпам. Сатурн падтрымае цябе ў кожным мерапрыемстве. Схадзі на танцы, плавай. 13-15.07. гучныя імпрэзы, важныя ўрачыстасці. Але 8-12.07. можаш апынуцца ў агні крытыкі. Скапне табе як з неба крыху грошай.

**(24.10. — 22.11.)** Вернецца твая раўнавага, паявяцца новыя нагоды і задумы. Добра абмяркуй, чаго хочаш. Не ламі ўжо адчыненых дзвярэй (8-12.07.). Зоркі заахвочваюць цябе да рызыкі, але не мусіць яна аплаціцца. Магчымыя любоўныя расчараванні, няясная туга. Падтрымка на працы, удалае падарожжа. А твая блізкая асоба можа ўжо побач? Пільнуйся, каб не стаць ахвярай злоснага жарту з 14.07. (да 20.07.).

**(23.11. — 22.12.)** Знойдзеш час і для працы, і для блізкіх знаёмых, і для прыемнасцей. Любоў не раз цябе заспее. Можаш быць крыху раздражнены, але не страціш добрага настрою. Будзеш містэрам ці міс у розных месцах. На працы будзеш недасяжны, а ў адпачынку здабудзеш мноства аматараў (таксама на блогу з падарожжаў), прытым яшчэ і заробіш.

**(23.12. — 20.01.)** 8.07. маеш шанц пазнаёміцца з асобай якая цябе ачаруе; пазбягай размоў з шэфам. 8-12.07. не перацані сваіх магчымасцей. Уступіць у цябе бойкі дух і не адпачнеш, пакуль не расправішся ва сваімі праціўнікамі, але адапхнеш зычлівых табе. Найлепш было б табе цяпер на бязлюднай выспе. „Прабач" палагодзіць сітуацыю. На працы будзеш у цэнтры падзей, работы вышэй вушэй, але пасыплецца нейкі праект з 14.07. (да 20.07.).

**(21.01. — 19.02.)** Пара адпачыць. Каханне знойдзе цябе ўсюды. 9.07. хтосьці неспадзяваны прызнаецца табе ў любові. Неператамляйся, захавай спакой. Заробіш дастаткова грошай. 13-15.07. праз няўважнасць і бестурботнасць можаш трапіць у турботы. Але хтосьці падкіне табе цікавую прапанову працы, зарэкамендуе цябе; можна будзе атрымаць добрыя сродкі на важны праект. З 14.07. (да 20.07.) прыйдзецца табе змагацца за свабоду і незалежнасць.

**(20.02. — 21.03.)** Парвеш з тым, што табе шкодзіць. Калі пакажаш ініцыятыву, поспех будзе гарантаваны. Трэба будзе стануць перад непрыемнымі сітуацыямі. Разлічвай на сваю інтуіцыю і голас розуму. На працы выкажашся, але 13-15.07. будзе ўсё псавацца, прапановы працы не будуць добрыя і цікавыя. Не раскідвайся грашыма. Будзь асцярожны на вадзе.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.






■ Іосіф Лангбард (крайні сядзіць справа) з аднакласнікамі ў Бельску.

Новае выданне

# Кніга пра архітэктара з Бельска

**Пра класіка беларускай савецкай архітэктуры, доктара архітэктуры, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Іосіфа Лангбарда (1882-1951) з Бельска я ўпершыню згадаў у сваёй кнізе „З Беластоцкай зямлі" (Беласток, праграмная Рада тыднёвіка „Ніва", 2008, с. 172-176). І хоць Іосіф Лангбард быў па нацыянальнасці яўрэй, але душой і сэрцам ён заўсёды жыў Беларуссю, якую любіў і дзеля якой шмат зрабіў напярэдадні і пасля Другой сусветнай вайны на ніве архітэктуры. Ён шчыра сябраваў з многімі вядомымі асобамі Беларусі, у прыватнасці з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Калі Янка Купала ўбачыў макеты трох будучых будынкаў у Мінску — Дома ўрада, тэатра оперы і балета і дома Чырвонай Арміі, то аж ускрыкнуў: „А летуценны хлопец, гэты Лангбард!..".**

Пра летуценнага хлопца з Бельска напісаў кніжку Ігар Мельнікаў, якая нядаўна выйшла ў серыі „100 выдатных дзеячаў беларускай культуры" (каардынатар праекта Анатоль Тарас) у мінскім выдавецтве „Харвест". Кніжка так і называецца „Іосіф Лангбард".

Аўтар кнігі жыццё і дзейнасць Іосіфа Лангбарда падзяляе на чатыры перыяды. Падчас першага (дасавецкага часу) адбывалася станаўленне архітэктурнага светапогляду гэтага чалавека. Пасля 1917 года пачаўся другі перыяд у жыцці архітэктара, калі ён спрабаваў выпрацаваць новы тып будынкаў для „свабодных савецкіх працоўных". У 1930 годзе пачаўся бадай самы галоўны і цікавы перыяд творчага жыцця дойліда, звязаны з будаўнічымі праектамі ў БССР. На працягу чацвёртага перыяду архітэктар удзельнічаў у адбудове разбураных падчас Другой сусветнай вайны гарадоў Беларусі, перш за ўсё Мінска.

Творчую спадчыну Іосіфа Лангбарда пачалі даследаваць амаль адразу пасля яго выхаду з жыцця. Удава архітэктара, як піша Ігар Мельнікаў, перадала частку архіва мужа яго вучню — мастаку С. Гельберту. Пазней некаторыя дакументы трапілі ў распараджэнне Беларускага політэхнічнага інстытута ў Мінску. У 1976 годзе была выдадзена манаграфія прафесара Анатоля Воінава, дзе рабіўся грунтоўны аналіз жыцця і творчасці Іосіфа Лангбарда. Былі нават зняты некалькі тэлеперадач і фільмаў пра яго.

У першай частцы сваёй кнігі аўтар знаёміць чытачоў з біяграфічнымі звесткамі архітэктара з Бельска, які нарадзіўся 5 (18) студзеня 1882 года. Іх дом знаходзіўся недалёка ад рэчкі Белай, дзе хлопчык любіў са сваімі равеснікамі купацца і лавіць рыбу. Бацька вельмі хацеў, каб сын атрымаў адукацыю і пачаў займацца камерцыяй. Але Іосіф з маленства любіў маляваць. І маляваў усё, што бачыў. Маляваў усім тым, што трапляла пад руку, і на чым толькі можна было маляваць. Ён быў здольны не толькі да малявання, але і да вучобы. Пасля заканчэння мясцовай гімназіі, 19-гадовы юнак пакідае родны горад і едзе вучыцца ў Адэскае мастацкае вучылішча.



■ Іосіф Лангбард з жонкай Людмілай

У 1907 годзе ён вытрымлівае конкурсныя экзамены і паступае на архітэктурнае аддзяленне Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, пасля якой яму прысвойваецца званне архітэктара-мастака.

Самымі творчымі і плённымі для Іосіфа Лангбарда былі 30-я гады XX стагоддзя. Па даручэнню Саўнаркама БССР ён кіруе праектаваннем і будаўніцтвам першай Усебеларускай сельскагаспадарчай і прамысловай выставы ў Мінску. Тэрыторыя была даволі вялікая — амаль 75 гектараў. У кароткі тэрмін на ўскраіне сталіцы было ўзведзена больш за 40 павільёнаў. Амаль усе яны былі выкананыя з дрэва і, вядома, да сённяшніх дзён не зберагліся. Выстава тады праходзіла з 10 жніўня да 1 лістапада 1930 года.

Поспех архітэктара з Бельска не застаўся незаўважаным. Ён прымае самы актыўны ўдзел у распрацоўцы праекта забудовы цэнтра Мінска. У 1930-1934 гадах па праекце Іосіфа Лангбарда ў сталіцы БССР узводзіцца будынак Дома ўрада Беларусі. Гэта буйнейшае грамадскае збудаванне ў рэспубліцы, аб'ём якога 240 тысяч кубічных метраў. У ім у даваенны час знаходзіліся амаль усе дзяржаўныя органы, якія былі ў той час у Мінску. Дом урада і сёння лічыцца адным з лепшых прыкладаў савецкай архітэктурнай школы.

У 1930-я гады па праектах Іосіфа Лангбарда ў Мінску будуецца яшчэ некалькі аб'ектаў. Арганічна ўваходзіць у забудову цэнтра беларускай сталіцы Дом афіцэраў (1934-1939), будынак Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета (1934-1938). У 1935 годзе архітэктару даручаюць праектаванне Акадэміі Навук Беларусі. Будаўніцтва комплексу пачалося па праекце архітэктара Георгія Лаўрова, аднак гэты праект хутка быў адхілены. Іосіф Лангбард захоўвае першапачатковую планіроўку карпусоў і распрацоўвае толькі галоўны фасад. У 1939 годзе будаўніцтва Акадэміі Навук было завершана і беларускіх вучоных павіншавалі з наваселлем.

У гэты ж час Іосіф Лангбард прымае ўдзел у стварэнні грамадска-палітычнага цэнтра ў Магілёве: па яго праекце ў абласным горадзе будуецца Дом Саветаў. Адначасова ў Ленінградзе ён праектуе і па яго праекце будуюцца жылыя дамы і стадыён, будынак абкама кампартыі Украіны ў Кіеве, устанаўліваюцца помнікі Васілю Чапаеву ў Куйбышаве, Тарасу Шаўчэнку ў Харкаве, Зоі Касмадзям'янскай у Тамбове і г.д.

У гады Другой сусветнай вайны гаспадарамі Мінска былі немцы. А архітэктар быў эвакуіраваны ў Расію. У Доме ўрада знаходзіліся нямецкі штаб, гестапа і база забеспячэння нямецкіх войскаў. У тэатры оперы і балета немцы зрабілі стайню, а ў Германію вывезлі старую мэблю, люстры, дываны, карціны мастакоў, каштоўны тэатральны рэквізіт. А Дом афіцэраў для немцаў стаў салдацкім клубам. Акупацыйныя часці знаходзіліся падчас вайны таксама і ў Акадэміі Навук. Але будынкі не пацярпелі. Тым не менш, пасля вайны ў кастрычніку 1944 года група архітэктараў разам з Іосіфам Лангбардам склала сваю ідэю адраджэння і планіроўкі Мінска. На працягу пяці гадоў архітэктар з'яўляўся кіраўніком майстэрні „Белдзяржпраект", быў адным з аўтараў генеральнага плана аднаўлення Гомеля ў сярэдзіне 1940-х гадоў. Але пасля вайны таленавітаму чалавеку так і не ўдалося стварыць у Мінску ніводнага манументальнага будынка. Лангбард быў пад пільным наглядам НКУС, яго пачыналі абвінавачваць у тым, што ён наследуе Захаду, вучыцца ў заходніх архітэктараў. Але па сваіх прафесійных поглядах Іосіф Лангбард быў прыхільнікам крытычнага асваення і выкарыстання традыцый мінулага. У класіцы ён цаніў архітэктурную дысцыпліну і парадак, суразмернасць асноўных формаў. Будынкі, пабудаваныя па праектах Іосіфа Лангбарда, і яго конкурсныя працы адрозніваюцца выразнасцю і, можна сказаць, нейкай дзелавітасцю. Дойлід напісаў яркую, поўную самабытнасці старонку ў гісторыі станаўлення і развіцця архітэктуры Беларусі ў першай палове XX стагоддзя. Вялікая яго заслуга і ў фармаванні творчага калектыву архітэктараў Беларусі. Вялікую ролю ў гэтым адыграла яго непасрэдная дапамога і асабісты прыклад. У сваёй творчай дзейнасці Іосіф Лангбард стварыў больш за 100 праектаў будынкаў рознага прызначэння, манументальных пабудоў, а таксама архітэктурных фантазій. Шмат разоў ён станавіўся пераможцам і лаўрэатам розных конкурсаў. 15 праектаў дойліда былі ўвасоблены ў жыццё, з іх 8 — у Беларусі. Яны і сёння з'яўляюцца прыкладам творчага пошуку і ўпрыгожаннем гарадскога пейзажу.

Пра ўсё вышэйсказанае чытачы больш грунтоўна даведаюцца з кнігі Ігара Мельнікава „Іосіф Лангбард". Аўтар піша таксама і пра тое, што ў канцы 1930-х гадоў у Ленінградзе органамі НКУС была арыштавана яго жонка Вольга. Архітэктару ўдалося выратаваць яе, дзякуючы першаму сакратару ЦК КП (б)Б Панцеляймону Панамарэнку, да якога ён у адчаі звярнуўся.

Шмат увагі аўтар кнігі аддаў апісанню стылю функцыяналізму ў архітэктуры. А ў Савецкім Саюзе быў распаўсюджаны адзін з напрамкаў функцыяналізму — так званы канструктывізм. Ён характарызаваўся строгасцю, геаметрызмам, лаканічнасцю форм і маналітнасцю вонкавага аблічча. Менавіта ў гэтым стылі і працаваў Іосіф Лангбард.

Пасля Другой сусветнай вайны Іосіф Лангбард выступіў за захаванне беларускай стылістыкі ў архітэктуры Мінска. Аднак яго намаганні не мелі поспеху. Больш за тое, Лангбарда абвінавацілі ў прасоўванні „буржуазных поглядаў" у архітэктуры. А ў 1949 годзе ў СССР распачалася сумна вядомая кампанія барацьбы з так званымі „бязроднымі касмапалітамі", на самой справе — з яўрэямі. У выніку, Іосіф Лангбард вымушаны быў пераехаць у Ленінград. Там ён пачаў выкладаць у Акадэміі мастацтваў, але цяжка пакутаваў ад шматлікіх праяўленняў палітычнага шаленства і антысеміцкай кампаніі ў тагачасным савецкім грамадстве. Сэрца яго не вытрымала ўсяго гэтага і 3 студзеня 1951 года Лангбард заўчасна памёр ва ўзросце 68 гадоў. Яго пахавалі на Серафімаўскіх могілках у Ленінградзе (цяпер Санкт-Пецярбург).

Сяргей ЧЫГРЫН

ISSN 0546-1960 28